

Турысты ў Беларусь → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Гурт Лідар → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 06 (3274) Год LXIV    Беласток, 10 лютага 2019 г.    Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Наша памяць пра Залешаны

Кожны год, калі ў Залешаны прыязджаюць людзі, Пятро Младзяноўскі адчувае сябе як не свой. Ажываюць успаміны, боль, крыўда, бездапаможнасць...

— Я быў у гэтай хаце, — кажа, — яшчэ пяць мінут і ўсе б мы згарэлі...

29 студзеня 1946 года, калі іх вёску наехаў атрад «Бурага», панавала сонечнае надвор'е. Памятае як загналі ўсіх у хату і забілі дзверы. Сціск быў такі, не развярнуцца. Старыя і дзеці, уся вёска. Калі падпалілі хату з народам, ён выпхнуў акно і хацеў уцякаць. Але ў яго бок хтось пусціў серыю з эркаэма. Пятро адчуў агонь на сваёй шыі. Памятае, як маці скінула з галавы хустку і абкруціла яму шыю:

*— Бо вжэ кроў біегла...*

Калі агонь стаў займаць будынак, мужчыны кінуліся выбіваць дзверы. Ну ж трэба было ратавацца. Памятае, як лопнулі дзверы і людзі замерлі ў атрупянелым жаху.

Што ім рабіць? Уцякаць ці вярнуцца ў агонь?

Бо каля хаты быў калодзеж, за якім выстойваў *адзін* з нацэленым эркаэмам. Гатовы страляць, класці па чарзе старых і малых...

Пра іх жыццё вырашыў цуд. Той вартавы з нацэленым эркаэмам чамусьці засумняваўся. І выстраліў... у паветра. Людзі ў міг зразумелі. Кінуліся ўцякаць — усе пабеглі ў бок Тапаркоў. Побач гарэлі клуні, вёска. Пятро запамятаў як маці адзела валёнкі яму на ножкі і пакінула яго з братам у карчах. А сама пабегла шукаць бацьку, які, замест уцякаць з імі, вярнуўся на панадворак ратаваць маёмасць.

Пятру Младзяноўскаму было тады шэсць гадоў. Запамятаў галечу і прыніжэнне:

— Асталіся без адной курыцы, каровы, свінні, каня... на гурбе горкага попелу. На ласцы сваякоў і добрых людзей. Ой, не дай Бог, такога!

* * *

Сваю гісторыю, як сам кажа мне Пятро Младзяноўскі, распавёў ужо сто разоў. Сёння ў 73 гадавіну трагедыі ў Залешаны з'ехала каля сотні народу. Насупраць крыжа, дзе пройдзе паміналне ахвяр, палатка з надпісам: «Gmina Kleszczele». З'явіўся і сам бургамістр Аляксандр Сяліцкі. З гэтага года сумнаўядомая гадавіна ўпершыню набыла статус афіцыйнай:

— Каб людзі адчувалі, што дзяржава звяртае ўвагу на сваіх грамадзян, — патлумачыць бургамістр Кляшчэль. А ў сваім афіцыйным выступленні, скажа: — Гэтыя людзі аддалі сваё жыццё толькі таму, што былі трохі іншыя, у іншы спосаб верылі ў аднаго Бога і на іншай мове гаварылі.

Кветкі і словы спачування ў бок сем'яў







і нашчадкаў ахвяр выказалі таксама стараста Гайнаўскага павета Адрэй Скепка, старшыня БГКТ Ян Сычэўскі, Ігар Ісаеў з руху «Грамадзяне РП». Кветкі ўсклалі яшчэ Беларускае гістарычнае таварыства, працаўнікі Гайнаўскай гміны і Севярын Пракапюк ад партыі «Разам». Самае кранальнае і братэрскае выказванне належыць генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку спадарыні Але Фёдаравай, якая разам з саветнікам пасольства РБ у РП Юрым Калабухавым прадстаўлялі беларускі бок:

— Дзякую за запрашэнне, — пачала спадарыня генконсул, — таму што сёння мы разам з вамі маем магчымасць ушанаваць памяць беларусаў, нашых родных, блізкіх, якія загінулі толькі таму, што былі беларусамі і былі праваслаўнымі. Для нас гэтае месца, таксама як для вас, жыхароў вёскі Залешаны, святое. Мы заўсёды будзем аддаваць памяць беларусам, якія атрымалі смерць з рук людзей, якія разумелі што твораць бяду, што гэта называецца генацыдам, таму што дэмакратычныя, развіцця краіны так не паступаюць. Я сёння бачу родных тых, што загінулі. Я застаюся ўдзячная ўсім, хто шануе гэтую памяць. Нізкі вам паклон за тое, што яны ў вашым сэрцы. Яны таксама ў нашым сэрцы, таму мы заўсёды разам з вамі, — сказала Ала Фёдарава.

* * *

Сцяпан і Валянціна Календа кожны год прыязджаюць з Бельска адзначыць гадавіну трагічнай падзеі. Спатыкаю іх на вернісажы «Наша памяць». На плоце, насупраць падмурка спаленай бандай у 1946 годзе хаты, 13 стэндаў з беларускімі і польскімі надпісамі, здымкамі, спасылкамі да сабраных матэрыялаў. Гаворым пра памылкі, якія ўдзельнікі праекта аднатавалі на помніках. Сцяпан спачатку не верыць, што такія памылкі дапушчаны, таму ідзем пад манумент, каб усё праверыць. Як сёння памятае той дзень, калі ў маі 1965 года прыехалі жаўнеры з Гайнаўкі і будавалі з гатовых частак помнік.

— Я якраз прыехаў з войска ў водпуск. Ой, было каля гэтага помніка завірухі, — успамінае. — Калі салдаты ўжо паставілі, яны ў *пачот* выстралілі ракеты. Адна з іх трапіла ў страху і загарэўся хлеў на суседнім панадворку. Пачалася беганіна, усе гасілі пажар...

Ужо з ходу мы прыкмецілі дзве памылкі. На помніку пераблытаны дата і лік ахвяр. Замест шаснаццаці асоб, якія загінулі з рук атрада «Бурага», пазначаны толькі чатырнаццаць.

Пытаю, з якога часу людзі сталі ўшаноўваць падзею:

— Ад пачатку, — кажа Сцяпан Календа. — Кожны год людзі закуплялі малебен. А ў гэты дзень, 29 студзеня, заўсёды прыязджаў бацюшка з крашчэнскай вадой. Усе сыходзіліся да крыжа на малебен. Праўда, усё адбывалася ў вясковым, сямейным крузе. Не так урачыста, як сёння...

Сцяпан Календа разам з вяскоўцамі быў у падпаленай хаце. Праўда, яму, трохгадоваму хлапчуку, якога верагодна трымала на руках маці, запамятаўся толькі адзін вобраз. Як загарэлася вопратка на яго браце.

— Ён старэйшы за мяне, — апярэджвае маё пытанне Сцяпан Календа. — Тады, як выраваліся з падпаленай хаты, усе ўцякалі за вёску, на Тапаркі. А ён заблытаўся дзесьці, дзе гарэлі клуні. Там загарэўся. На шчасце ў пару адратавалі. Ён і сёння яшчэ жыве.

* * *

Аддаць паклон ахвярам прыехаў у Залешаны Сяргей Нічыпарук, герой фільма «Сярожа».

Пытаю ў яго пра нашу памяць пра Залешаны.

— З памяццю не простая справа, — кажа Сяргей Нічыпарук. — На пачатку, калі здарыцца штосьць страшнае, ёсць невымоўны боль, пасля ён крыху ціхне і зноў вяртаецца. І пакуль жывуць тыя людзі, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі трагедыі, або пакуль жыве другое пасля іх пакаленне, бацькі многа расказваюць. То ўсё яшчэ эмоцыі...

Пасля, пра што можам гаварыць ужо сёння, прыходзіць рэфлексія, раны гояцца. Але тая рэфлексія павінна быць вельмі глыбокай і разумнай. На жаль, не памерлі такія думкі, якія былі ў галовах тых, што здзяйснялі морд. Зло не засынае ніколі моцным сном, яно толькі дрэмле. І трэба гаварыць з маладымі, — працягвае Сяргей Нічыпарук, — усвядоміць ім, што зноў можа паўтарыцца. Частка з іх ведае пра Залешаны дзякуючы настаўнікам, бацькам. Яны самі шукаюць праўды. Важна, каб быў грунтоўны, фактаграфічны пераказ. Бо калі такога пераказу няма, усё можа прыцыхнуць, стаць урыўкам гісторыі. І тое, што знайшліся такія людзі, якія ездзяць і дакументуюць гэтую страшную падзею, гэта надзейна. Яны — малайцы!

За супакой душ і памяць загінулых, якія прылічаны Царквой у спісак Святых Холмскіх і Падляшскіх, маліліся чатыры святары, у тым ліку настаяцель Кляшчэлеўскага прыхода мітрат Мікалай Келбашэўскі, які ўжо 52 гады прыязджае ў Залешаны.

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**



9 770546 196017



# Забарона на журналістыку

Незалежная журналістыка ў Беларусі фактычна знаходзіцца пад забаронай. Дазваляецца толькі прыдворная абслуга ў выглядзе фінансаваных дзяржавай раённых, абласных і цэнтральных медый, якія паклікания весці прапаганду рэальных, а больш міфічных, дасягненняў сінявокай рэспублікі і яе кіраўнікоў. Найперш, канешне, галоўнага начальніка дзяржавы, у другую чаргу — буйных чыноўнікаў, ну і па астатку — „вертыкальнікаў" больш дробнага калібру. Ёсць жорстка выпрацаваны больш чым за дваццаць гадоў непахісны фармат і алгарытм дзеянняў. Гэта калі зверху вызначана пра што пісаць непажадана, пра што — катэгарычна нельга, пра што пісаць толькі добра, а дзе белае назваць чорным і наадварот. Гэтым дзяржаўным ідэолагам нават тэарэтычна цяжка асэнсаваць, што журналістыка — гэта не ўсхваленне кіраўнікоў дзяржавы, іх дальнабачнасці і „мудрасці". Што кожны журналіст у кожнай краіне ў той ці іншай ступені павінен быць у апазіцыі да ўлады. Што асноўная місія журналістыкі — гэта выяўляць заганы, недахопы, прычым не толькі і не столькі грамадства, а найперш улады, кіроўных структур краіны. Думаецца, што гэтая простая ісціна нават не прыходзіць ідэолагам РБ у галовы. Настолькі яны, нібы механістычныя робаты, запраграмаваныя зусім на іншае. У сістэме іх каардынат няма месца такім паняцьцям, як мараль, этыка, сумленне. Асноўнае заданне дзяржаўных медый — гэта аблізваць сваіх гаспадароў.

На іншым полюсе медыйнай прасторы нешматлікія незалежныя выданні, блогеры і журналісты-фрылансеры. Іх дзяржава цярпець не можа, таму ўсяляк дыскрымінуе, абражае і праследуе. Таму, прыкладам, журналісты Беларускага Радыё Рацыя і тэлеканала Белсат пад асаблівым прыцэлам. Шчыра прызнаюся, што я проста захапляюся сваімі калегамі, якія шмат гадоў церпяць і вытрымліваюць пераслед, прэсінг з боку сілавых і судовых структур, бясконца штрафуюцца і знаходзяцца пад пагрозай значна больш жорсткіх рэпрэсій. Мілана Харытонава, Алесь Ляўчук, Яўген Скрабец з Брэста, Тамара Шчапёткіна з Бярозы, Таццяна Смоткіна і Зміцер Лупач з Глыбокага, Алесь Дзянісаў, Алесь Кіркевіч, Андрэй Мялешка з Гродна, Ларыса Шчыракова, Андрэй Толчын і Кастусь Жукоўскі з Гомеля, Генадзь Барбарыч, Аляксандр Баразенка, Вольга Чайчыц з Мінска — усе гэтыя журналісты шматразова прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці і караліся на судзілішчах. Прашу прабачэння ў тых журналістаў, якіх я ў гэтым пераліку мог забыцца і прапусціць. А штрафы вялізныя — у пераразліку па 300-600 долараў за кожным разам. Кастусь Жукоўскі зусім нядаўна нават быў змушаны пакінуць Беларусь.

Тут для тых, хто недасведчаны ў заканадаўстве трэба патлумачыць асаблівасць артыкула 22.9, частка 2 адміністрацыйнага кодэксу („незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі"). Не думайце, што гэты артыкул сам па сабе настолькі рэпрэсіўны. Па юрыдычнай логіцы ён прадугледжвае адказнасць не фізічных, а юрыдычных асоб. Але суды атрымалі цвёрдую ўстаноўку караць менавіта асобных журналістаў-фрылансераў. Зарэгістраваць жа рэдакцыі таго ж Беларускага Радыё Рацыя ці Белсата ў Беларусі немагчыма. Немажліва і атрымаць асабістую акрэдытацыю ад МЗС Рэспублікі Беларусь. Наш калега Віктар Парфёненка зрабіў ужо 10 (!) такіх спроб. І, канешне, усё марна. Такім чынам журналісты пастаўлены ў сітуацыю замкнутага кола, выйсця з якога няма.

Ніякай „адлігі" ці лібералізацыі ў галіне існавання незалежных медый і асобных журналістаў нават не праглядваецца. Наадварот, сітуацыя цэлы час няўхільна пагаршаецца. Вось на мінулым тыдні ў Гродне зноў судзілі Алеся Кіркевіча і Алеся Дзянісава, якія знялі сюжэт пра турыстычны патэнцыял старажытных сутарэнняў горада над Нёманам. Вынік прадказальны — вялізныя штрафы абодвум. Апошняя вестка яшчэ горшая — супраць брэсцкага блогера Сяргея Пятрухіна пачалі адразу дзве крымінальныя справы па артыкулах „паклёп" і „абраза". Нібыта Пятрухін абразіў сваім відэароликам годнасць міліцыянтаў. Хоць больш, чым яны самі сябе, ніхто іх прынізіць не ў стане.

Такія сённяшнія рэаліі жыцця і працы беларускіх журналістаў.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Птушка ўсё яшчэ спявае

Дзесьці, калісьці і з іншай нагоды, але напэўна зусім нядаўна, цытаваў я прыгожую старажытнаперсідскую прыказку: «Страла ўжо ў палёце, птушка ўсё яшчэ спявае ў лесе...». Кажа яна пра непазбежнасць прычынна-выніковых сувязей падзей, нягледзячы на ілюзорнасць здубянелага на гэты момант «цяпер». Вось гэты момант такі прыгожы. Страла выпушчаная з лука па-ранейшаму ляціць, птушка дагэтуль спявае... Цяпер! Гэты момант, які мы бачым, як шчаслівы, момант замарожаны ў нашым успрыманні, аднак, бязмэтны. Дарэчнае прадбачванне наступстваў. Чалавечае глупства, як правіла, не характарызуецца мэтазгоднасцю. Яно жаласна бязмэтнае.

Мне хочацца палямантаваць у гэтым кантэксце: глабальны ўзровень расчаравання перасек стан трывогі. Нягледзячы на ўсё, мы, здаецца, не заўважаем гэтага, хоць яно выліваецца ў бачны і адчувальны крызіс псіхічных і псіхалагічных супольнасцей і асобных асоб, грамадстваў і народаў, краін і міжнародных устаноў. І, нарэшце, вышэй: міжнародных адносін. Справа ў тым, што рассыпаюцца існуючыя ідэі сацыяльнага парадку, заснаванага на філасофіі моцнай усемагутнай дзяржаўнасці, якая кіруецца каштоўнасцямі вышэйшымі чым эгаізмы ці індывідуальныя перакананні ўласных палітычных асяроддзяў ці ідэалагічных перадумоў. Калі б гэта было інакш, дзяржава, як і міфічны змей Урубор, зжэрла б самую сябе ад хваста. На жаль, яна пачынае самапажырацца. На маю думку, паслабленне аўтарытэту дзяржавы, неабавязкова толькі са спасылкай на прыклад яе перараджэння ў Польшчы пад уладараннем ПіС — гэта адбываецца ва ўсім свеце. Следствам рэгрэсіі дзяржаўнасці з'яўляецца актывізацыя мясцовага папулізму, нацыянальных шавінізмаў і псеўдапатрыятычнай рыторыкі, якая ўзмацняе крайнія нацыяналізмы. Да чаго гэта вядзе? З павелічэннем расчаравання таксама павышаецца ўзровень глабальнай агрэсіі. З часоў халоднай вайны, надзвычай канфрантацыйнай эпохі дзвюх процілеглых ідэалогій, не было горш. Толькі што сёння не ідэалогіі матывуюць агрэсію... але бескарысны папулізм, выкліканы рэгрэсіяй дзяржаўнасці ў глабальным маштабе.

Стрэлкі на Гадзінніку Гібелі спыніліся катастрафічна блізка да 0.0.. гадзіны... Не хапае ім толькі 2 хвілін. Гэта на самой справе не так шмат часу, але дастаткова, каб раскаяцца і нейтралізаваць ферменты раскладу, якія пераварваюць аўтаімунна чалавецтва — яго складаную палітычную і сацыяльную культуру. Толькі што энтрапійная жэртва знаходзіцца ў поўным разгары. Вялікі сучасны фізік і матэматык Роджэр Пенроўз вызначыў паняцце энтрапіі мерай бачнай хаатычнасці сістэмы. Наш чалавечы Свет, які складаецца з фактаў і міфаў, веды і веры, рэальнасці з матэрыі і духу, такая сістэма, якая, на жаль, відаць, была пакінута сама сабе з-за нашых недаглядаў. Ці, можа быць, з-за прыроджанай чалавечай схільнасці да самаразбурэння? «Рэчы пакінутыя самі сабе, — кажа з адценнем смутку Пенроўз, — становяцца з часам усё больш і больш неўпарадкаванымі». І таму расце энтрапія нашага Свету.

З самага пачатку чалавецтва, і ў многіх праявах шматлікіх цывілізацый, «тлумачылася» са сваёй бязмэтнай тупасці непазбежным Апакаліпсісам. Незалежна ад свайго знаходжання ў прасторы, разбой геаграфічна мясцовых грамад заўсёды карміўся імпэтам да канчатковай гібелі. Быццам тлумачыўшы свае хібы. Паказалі гэта егіпцяне, майя, грэкі, сучаснікі. Тэрмін *ekpyrosis*, быўшы стаічным паглядам часткі грэкаў аб перыядычным знішчэнні Космасу вялікім пажарам, а затым адраджэнні Свету, які зноў павінен быць спалены, знаходзіць сваю аналогію ў сучаснай касмалогіі, абсталяванай магутным матэматычным апаратам, якая «разважае» над станам бягучых ведаў паміж Вялікім Выбухам і Вялікім Калапсам. Пра асаблівасці так званых чорных дзірак не кажучы. Самапрыгнечанасць канцом канца гістарычная. Яна апладняе імпульс чалавечага жыцця ад старазапаветна-евангельскіх да сённяшніх тэорый канца Свету. Гэтая пакута — асноўны яго рухавік. Ці гэтае «пыркатанне» ледзь дыхаючага матора чалавецтва апраўдвае ягонае бязмэтнае глупства? На думку многіх — на жаль, так!

**Міраслаў ГРЫКА**

Сваімі вачыма

# Адстойваць сваю памяць — наш маральны абавязак!



— На гэтай выстаўцы мы паказалі, якая наша памяць, колькі ведаем пра трагічныя падзеі 1946 года, — гаварыў прафесар **Алег Латышонак** 29 студзеня г.г. у Залешанах. Адразу пасля афіцыйнай часткі мы спыталі ў прафесара пра асаблівасці і сэнс праекта «Наша памяць».

**Алег Латышонак,** старшыня Беларускага гістарычнага таварыства:

— Ідэю праекта «Наша памяць» прыдумаў Яраславаў Іванюк з Фонду kamunikat.org. Спачатку была думка, каб зрабіць аб'езд па месцах, дзе прайшоў атрад «Бурага» і апісаць, сфатаграфаваць усе помнікі ў памяць ахвяр. Але калі мы паехалі і сабралі матэрыял, то падумалі, што трэба паказаць гэта людзям. Па-першае, нашы веды пашырыліся. Мы, напрыклад, здолелі знайсці месца пахавання дзяўчыны, якая была забіта толькі таму, што абаранялася ад згвалтавання. Ужо нават мясцовыя людзі не маглі паказаць, дзе яе магіла. (Гэта на могілках у Малешах). Але нашы сябры былі настолькі ўпартыя, што паднялі кожны павалены крыж на могілках. І адзін з крыжоў, што ўжо ўпалі, належаў гэтай дзяўчыне — Марыі Петручук са Шпакоў. Так адшукалі месца яе пахавання.

**Ганна Кандрацюк:** — *У ажыццяўленні праекта прымае ўдзел многа маладых людзей, якія працуюць на грамадскіх пачатках?*

**АЛ:** — Калі Яраслаў Іванюк прапанаваў нешта зрабіць, то спачатку падумалі, што трэба склікаць людзей. Я сам пайшоў да свайго калегі прафесара Мацея Карчэўскага, каб ён зрабіў нам інструктаж як працаваць з рэгістрацыяй помнікаў. А ён сказаў: сам з вамі паеду! Яго жонка таксама з намі ездзіць. Так што ангажавалася шмат людзей і на грамадскіх пачатках прысвяцілі сябе гэтай справе. І гэта не толькі адны беларусы.

**ГК:** — *Чаму Вы рашылі паставіць новыя помнікі?*

**АЛ:** — Новыя помнікі гэта ўжо апошні, планаваны этап праекта. Спачатку хочам апрацаваць сабраны матэрыял і перадаць яго ваяводскаму захавальніку помнікаў, каб занесці іх у спісак дзяржаўных помнікаў, бо гэтыя мемарыялы і помнікі нішчэюць. Хочам таксама выдаць інфармацыйны буклет з нашых выстаў. А чаму мы падумалі пра новыя помнікі? На ніводным з гэтых помнікаў, прысвечаных ахвярам, няма надпісаў па-беларуску. А яны проста належаць ім, таму што гэтыя людзі загінулі толькі таму, што былі беларусамі.

**ГК:** — *На сённяшняй выстаўцы, якую складаюць 13 стэндаў, можна пабачыць архіўныя здымкі, на якіх абгарэлыя трупы людзей. Фактаграфічны доказ генацыду, які прынёс з сабой атрад Рамуальда Райса, псеўданім «Буры». Яны паказаны ўпершыню?*

**АЛ:** — Здымкі мы атрымалі з Інстытута нацыянальнай памяці і яны вядомыя даследчыкам, хаця іх вельмі рэдка паказваюць. У нас больш такіх здымкаў, але мы няўпэўнены, што яны датычаць якраз гэтых канкрэтных мясцовасцей.

**ГК:** — *Ці пасля аб'ездаў і пашырэння ведаў пра сумнавядомыя здарэнні 1946 года Вы зразумелі, якія ў нас недахопы і прабелы ў гэтай тэме?*

**АЛ:** — Ніколі няма так, каб усё было да канца сказана і напісана. Я думаю, што гэтую гісторыю трэба нам напісаць нанова. Я сам знайшоў такое выказванне «Бурага», якога яшчэ ніхто не прыводзіў. А, між іншым, ён сказаў, што спаліў гэтыя вёскі таму, што яны не схацелі падацца ў рэпатрыяцыю ў Савецкі Саюз.

**ГК:** — *Ці ў стыхіі татальнай асіміляцыі, у якой апынулася беларуская меншасць Падляшша, мы зможам адстаяць сваю памяць і праўду?*

**АЛ:** — Пытанне не ў тым, «ці зможам», але ў тым, што мусім адстойваць сваю памяць і праўду. Гэта наш маральны абавязак і з гэтага саступіць нельга.

Гутарыла **Ганна КАНДРАЦЮК**

# Турысты штораз больш зацікаўлены Мінскам

**«Беларусь зараз больш адкрытая на турыстаў з Польшчы, чым Польшча на беларусаў», — кажа шматгадовы ўласнік беластоцкай турфірмы «Юніёр» Яўген Лаўранюк.**



**— Як думаеце, колькі ўжо людзей, карыстаючыся паслугамі Вашай турфірмы, адведала Беларусь?**

— Не ведаю, але можна сказаць, што за апошнія гады тысячы турыстаў пабачылі Беларусь. Мяжа побач, маем многа кантактаў у Беларусі, многа партнёраў. Наша турфірма існуе з 1995 года і ад пачатку прапануем экскурсіі ў Беларусь. Вядома, у нашай прапанове маем таксама іншыя напрамкі.

**— Хто карыстаецца паслугамі Вашай турфірмы, калі гаварыць пра Беларусь?**

— Турысты з Падляшша гэта мінімальны адсотак. Усе, якія едуць у рамках бязвізавага рэжыму, гэта людзі з Гданьска, Познані — з усёй Польшчы. У мінулым годзе з траўня штотыдзень поўны аўтобус ездзіў у Гародню. Турыстам вельмі падабаецца гэты горад. Я ўжо столькі разоў там быў і бачу як ён мяняецца! Замак рамантуюць, многа крамаў, кафэшак, рэстаранаў. Гродна становіцца турыстычным горадам. Гэта відаць па колькасці турыстаў — больш за сто тысяч наведала Гародню ў рамках бязвізавага руху. Там застаюцца грошы, гэта для Беларусі карыснае.

**— Апрача Гародні, Міра, Нясвіжа, Навагрудка, куды яшчэ цягне турыстаў з Захаду?**

— Можна сказаць, што турысты штораз больш зацікаўлены Мінскам. Хочуць пабачыць сталіцу Беларусі. Нават калі спыняюцца ў Лідзе ці Баранавічах, то хочуць на дзень паехаць у Мінск. Глядзяць і вяртаюцца на вечар у, напрыклад, тую ж Ліду. Усе турысты пад уражаннем ад Мінска. Часта гавораць, што гэта сапраўдная еўрапейская сталіца, якая нічым не адрозніваецца ад іншых сталіц у Заходняй Еўропе.

**— У сваёй прапанове маеце таксама лячэбныя экскурсіі. Якія санаторыі прапануеце?**

— Званкі ёсць з усёй Польшчы. Вельмі нас цешыць, што шмат санаторыяў знаходзіцца ў бязвізавай зоне. Турыстам гэта выгадна, тым больш што зараз могуць лячыцца дзесяць дзён.

**— Як ацэньваюцца санаторныя паслугі ў Беларусі?**

— Вельмі добра! Там танней, чым у Польшчы. Маюць самае сучаснае абсталяванне, персанал, які заўсёды лепш ці горш, але размаўляе па-польску. Многа турыстаў карыстаецца бязвізавым рэжымам, каб адпачыць і аздаравіцца ў беларускіх санаторыях Гродзенскага раёна.

**— А як гэта працуе ў другі бок? Турысты з Беларусі прыязджаюць на Падляшша?**

— За апошнія гады крыху менш маем заказаў з Беларусі. Калі ўжо ёсць ахвотныя, едуць у Гданьск, Варшаву, Кракаў. Яшчэ здараюцца групы, якія хочуць пабачыць наш бок Белавежскай пушчы. Тут варта сказаць, што візавая палітыка для развіцця турызму вельмі добрая! Ёсць групавыя турыстычныя візы — толькі 10 еўра з асобы, гэта нямнога. Дакументы на візу можна аформіць за адзін тыдзень. Пропускі ў Гродна, Брэст таксама нескладана атрымаць. Гэта мудрая турыстычныя палітыка! Многа груп ездзіць у Беларусь. Многія турфірмы займаюцца гэтым і ўсё рыхтуюць за турыста. На жаль, гэта інакш выглядае з другой стараны, з-за шэнгенскіх законаў і іншых... Турыстычная палітыка польскіх консульстваў у Беларусі не падтрымлівае турызму так, як мы б гэтага жадалі.




**— Калісьці менавіта Ваша турфірма прапанавала беларусам «візу за квіткі». Здаецца, што тыя экскурсіі карысталіся вялікай зацікаўленасцю.**

— Та-а-а-к, гэтая праграма працавала толькі некалькі месяцаў — шкада. Зацікаўленых паездкай у оперу было вельмі многа. Купляючы адзін з культурна-турыстычных пакетаў, беларусы атрымлівалі бясплатную візу ў Польшчу. Кошт двухдзённай экскурсіі з адным начлегам складаў каля 50 еўра. Прапанова была накіравана на арганізаваныя групы. І турысты маглі пабываць у оперы і пабачыць Супрасль. Таксама ездзілі на базар на вуліцы Кавалерыйскай. Для Беластока гэта была карысная справа. Мы на некаторыя спектаклі запаўнялі оперу, беларусам яны вельмі падабаліся. Мы, дзякуючы гэтай праграме, змянялі стэрэатыпы. Насамрэч усе прызвычаіліся, што беларусы — гэта гіпермаркеты, кірмаш ды іншыя гандлёвыя кропкі. Нам удалося паказаць беларусам Беласток з іншага боку, паказалі культуру Беластока, культуру Польшчы. Самі беларусы ахвотна карысталіся культурнай прапановай нашага горада.

**— А ці адмена віз на пакупкі можа стаць шанцам для развіцця турызму?**

— Візы на пакупкі? Гммм... Магчыма мой адказ многім не спадабаецца, але некалькі гадоў таму, калі ўвялі візавыя цэнтры ў Беларусі і пачалі яны рабіць візы на пакупкі, гэта крыху прыбіла турызм. Больш жыхароў Беларусі брала візы на пакупкі, а раней падавалі ў турфірмах групы і такія турфірмы арганізавалі вельмі многа экскурсій. Праз гэтыя візы турызм у Польшчы крыху горш развіваецца. Зараз турыст з Беларусі, калі нават купляе паездку ў беларускай турфірме, яму самому трэба падаваць паперы на візы. Я гэта разумею, разумею гэтых людзей, але развіццю турызму гэта не спрыяе.

**— Вы сказалі, што беларусы купляюць экскурсіі ў Гданьск, Кракаў, рэдка падарожнічаюць па Падляшшы. А як гэта выглядае ў нас? Часта маеце зацікаўленых экскурсіямі ў Беларусь турыстаў з Падляшша?**

— Ездзяць вучні школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. А наогул жыхары Падляшша самі афармляюць сабе пропускі, візы. Большасць мае сваякоў за мяжой, так што ім проста не трэба карыстацца нашымі паслугамі.

**— Пасля амаль трыццаці гадоў існавання Вашай турфірмы Вы напэўна добра ведаеце Беларусь, але таксама напэўна і яе любіце?**

— Так, гэта праўда. Вельмі часта там бываю, можна сказаць, што я ўжо звездаў амаль усю Беларусь. Многа партнёраў, многа прыватных знаёмых... Нас цешыць, што Беларусь таксама стала больш прывабнай для турыстаў з Заходу. Галоўная праблема — гасцініцы. У Мінску іх многа, але толькі ў Мінску. У Лідзе — адна. Прыязджаюць палякі, расіяне, літоўцы. Мы зараз шукаем гасцініц на ліпень і ўжо вельмі цяжка што-небудзь знайсці. Не ўсе думалі, што турызм гэта бізнес. А гэта добры бізнес. Турысты зараз ездзяць па ўсім свеце і такіх самых стандартаў патрабуюць ад Беларусі.

**— Турысты, пабачыўшы Беларусь, наведваюць яе яшчэ раз? Вяртаюцца ў Беларусь?**

— Маем сваіх пастаянных кліентаў, якія туды ездзяць. Рэкамендуюць таксама паездкі іншым. Штогод штораз больш турфірмаў з Польшчы займаецца экскурсіямі ў Беларусь. Гэта сведчыць, што ёсць зацікаўленасць. Мы таксама, апрача Гародні, Ліды, Мінска, прапануем і Косава, Пінск, Віцебск, Полацк...

**— Так што з Вашай турфірмай можна ездзіць амаль па ўсёй Беларусі?**

— Па ўсёй Беларусі.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыла **Уршуля ШУБЗДА**

# А ГУРТ «ЛІДАР» НАДАЛЕЙ ІГРАЕ


http://zespol-lider.pl

Юрка БУЙНЮК

**Беластоцкі гурт «Лідар» — адзін з самых папулярных беларускіх гуртоў на Падляшшы. Хто ж не ведае такіх славутых песень як «Мне мама ціха гаварыла», «Перапёлка», «Раманс», «Іграй гітара». Іх песні пастаянна гучаць у канцэртах пажаданняў у эфіры Радыё Беласток і Радыё Рацыя. Песня «Вёсачка» стала гімнам усіх выхадцаў з вёскі, якія зараз жывуць у гарадах. Пра сучаснасць і мінулае гурта Юрка Буйнюк размаўляе з вакалістам групы «Лідар» Міраславам Кавальскім.**

**Юрка Буйнюк: — Гурт «Лідар» паўстаў у 1996 годзе, але раней Вы выступалі пад назвай «Рэаль». Калі паўстаў гурт «Рэаль» і хто быў у яго складзе?**

**Міраслаў Кавальскі:** — Гурт «Рэаль» састаўлялі я, мае браты Ян і Чэслаў Кавальскія ды Янка Крынскі, які з намі іграў на гітары.

**— Колькі гурт «Рэаль» выпусціў аўдыякасет?**

— Дзве касеты. Першая касета не мела загалоўка, толькі ноткі на вокладцы. А на другой быў ужо здымак гурта і назва «Piosenki białoruskie».

**— Памятаю, што гурт «Рэаль» спяваў песню «Падары» — ковер на песню рускай спявачкі Марыны Жураўлёвай.**

— Так, калісьці перараблялі крышку, але не дзеля камерцыйных мэт, як зараз. Мы хацелі іграць штосьці іншае, чым старыя песні, але не так, што нехта з нас хацеў захапіць сабе гэтыя песні як свае. Запісвалі, што прыходзіла ў галаву, кажучы: «Ну, давайце тую». І так атрымлівалася.

**— А хто напісаў беларускі тэкст да песні «Падары»?**

— Добра не помню хто, але можа сам Віктар Швед напісаў. Магчыма, што мы з Генадзем Шэметам перарабілі словы песні на беларускі лад. Я добра не памятаю.

**— А як у рэпертуар гурта «Рэаль» трапіла песня «Раманс»?**

— «Раманс» гэта расейская песня. Беларускія словы напісаў Віктар Швед.

**— Вы калісьці ігралі на забаве ў Малінніках. Як успамінаеце першыя выступленні гурта «Рэаль»? Дзе вы ігралі на фэстах, вяселлях?**

— На вяселлях і фэстах ігралі мы многа. Найчасцей мы ігралі ў нашым рэгіёне, на Беласточчыне. З «Рэалем» выступалі таксама на фэсце літоўскай меншасці каля Сейнаў. Тады на адной сцэне разам з намі выступала «Чарамшына». Наведалі мы Сямятычы, Гайнаўку, Бельск-Падляшскі, Беласток. Выступалі ў Гданьску на адной сцэне з «Маланкай». Ігралі таксама ў Сакалове-Падляшскім. А вяселлі ігралі ўжо як група «Лідар» у Варшаве. Калі нам падарылі беларускія народныя строі, дык мы выступалі таксама на Беларусі. На эстрадныя выступленні мы ездзілі ў Мінск, выступалі ў Віцебску разам з Генадзем Шэметам, у Гародні. Многа было ў гэты час беларускіх канцэртаў і фэстаў.

**— Якая розніца паміж публікай і выступленнямі на Падляшшы, у Польшчы ці ў Беларусі? Дзе Вас найлепш успрымалі?**

— На Беларусі на фэстах і канцэртах таксама было многа людзей. Мы ігралі на адной сцэне, на якой выступалі «Песняры». Там людзі файна гуляюць пры беларускіх песнях. Мы як гурт «Лідар» на Падляшшы былі больш вядомымі, чым на Беларусі, але і там людзі прымалі вельмі файна. Думаю, што падабаліся ім нашы выступленні. Нам таксама падабалася на Беларусі. На Беласточчыне людзі ведалі наш гурт «Лідар», а на пачатку «Рэаль», бо мы і на радыё былі. Кожная публіка файная. Найважнейшае, каб выступленне падабалася. Тады хочацца выступаць на сцэне. Свядомасць, што публіка задаволеная і шчаслівая ад нашай музыкі, натхняе.

**— «Рэаль» выдаваў касеты ў фанаграфічнай фірме J. M. W. Ці спрыяла яна беларускім гуртам з Падляшша?**

— Акурат мы ведалі гэтага чалавека, што выпускаў касеты і дагаварыліся з ім. Гэта было выдавецтва, якое выпускала касеты і польскіх, і беларускіх гуртоў з Беластока. Але фірма не ператрывала.

**— Ваш гурт, можна сказаць, сямейны. Ад самага пачатку выступаеце на сцэне з родным братам Янам. Як Вам складаецца супрацоўніцтва з братам?**

— Вельмі добра. Брат гэта брат — старэйшы заўсёды памагае малодшаму. Часам паміж намі бываюць дробныя непаразуменні, у якіх потым становічы фінал. З братамі не было моцных разыходжанняў. Разышліся мы з братам Чэславам, які апошнім часам думае купіць ударныя інструменты, але не ведаю як далей будзе. Пакуль Чэсек не мае часу для музыкі, таму што займаецца сваёй фірмай.

**— Можа зноў будзеце іграць утраіх разам, паколькі маеце музыкальны талент. Ці ўся Ваша сям'я такая таленавітая?**

— Усё пачалося з нашай бабулі з боку нашага бацькі, Анны, якая нарадзілася ў Ласінцы, а потым выйшла замуж за нашага дзеда з Крыўца. Яна вельмі прыгожа спявала. Тата наш таксама прыгожа спяваў, іграў на гармоніку і на бубнах. Дзеці спяваюць таксама. Мая дачка двойчы выйграла музычны конкурс у школе. Яна спявала песню на англійскай мове. Сын таксама прыгожа спявае. Наймене шаму сыну толькі шэсць гадоў, але бачу, што таксама будзе файна спяваць.

**— А ці бабуліны песні трапілі ў рэпертуар гурта «Рэаль» ці «Лідар»?**

— Бабуля спявала нам розныя песні і мы некаторыя з іх таксама спявалі. Напэўна ў рэпертуары гурту «Рэаль» былі дзве-тры народныя песні, якія мы ўзялі ад бабулі.

**— Чаму Вы змянілі назву гурту «Рэаль» на «Лідар»?**

— «Рэаль» паўстаў у 1990 годзе. У 1995 годзе адбылася змена складу гурта «Рэаль» — адышлі брат Чэслаў і Янка Крынскі. На іх месца прыйшоў Генадзь Шэмет і мы тады назву памянялі на «Лідар». Пачалі мы іграць польскую музыку «disco polo» і сталі ездзіць на канцэрты па ўсёй Польшчы.

**— З «Лідарам» Вы выпусцілі дзве польскія касеты «Suknie kolorowe» і «Zaczarowany świat». Як Вашы выступленні ўспрымала польская публіка, а як наша падляшская, беларуская?**

— Кожная публіка добрая. Польская музыка была іншая. Палякі маюць іншы густ, чым беларусы Падляшша, таму «disco polo» розніца ад беларускай музыкі з Падляшша. Калі мы ездзілі ў Польшчу, спяваючы польскія песні, дык гэтыя канцэрты былі арганізаваны з большым размахам, з большай рэкламай, чым беларускія канцэрты на Падляшшы. Таму на нашы польскія выступленні прыходзіла намнога больш людзей. Я думаю, што кожная публіка добрая, а наша падляшская — самая найлепшая.

**— Вы выдалі два беларускія альбомы. Першая касета гэта «Вёсачка» ад 2001 года. Як паўстала песня «Вёсачка»? Гэта песня з рэпертуару групы «Белый день». Хто напісаў беларускія словы?**

— «Вёсачку» мы напісалі з Генадзем Шэметам, пераклалі з рускай на беларускую мову. Паслухалі, што файная песня і зрабілі.

**— Ну і «Вёсачка» стала найбольшым хітам, хаця ў рэпертуары «Лідара» многа прыгожых песень...**

— Гэта характэрная песня, а словы тыпу «ў царкве вясковай вянчаліся» — душашчыпальныя, якія навяваюць самыя чулліўыя ўспаміны. Але ёсць і песня «Белая каліна» і навейшая «Чаромуха» — узятая з расейскай народнай песні, але яна па-беларуску таксама гучыць вельмі прыгожа.

**— А хто напісаў тэкст і музыку да «Белай каліны»?**

— Словы напісаў Віктар Швед, а музыку скампанаваў Вальдэк Окштуль — гітарыст польскай групы «Імперыюм». Яны зрабілі гэту песню па-польску. Там нават аранжыроўка зусім іншая. Вальдэк кажа мне: «Зрабі па-беларуску як хочаш». Віктар Швед напісаў словы і так мы канчаткова «Белую каліну» перарабілі. Можна сказаць, што гэта аўтарская песня, не ўзятая з рускай ці ўкраінскай музыкі.

**— Мне вельмі падабаюцца песні «Перапёлка», «Каліны куст». Хто напісаў тэкст і музыку да астатняй песні і як увогуле яна ўзнікла?**

— Тэкст і музыку напісаў Генадзь Шэмет і я яму крыху дапамагаў, можна сказаць, у сарака працэнтах гэта мая заслуга. Песня паўстала даўно, яшчэ ў 90-х гадах. Гэта было тады, калі ўжо «Лідар» іграў. Мы ведалі тады кампазітара і аранжыроўшчыка з Беларусі Ігара Гіро і гэта ён зрабіў нам аранжыроўку да песні «Каліны куст». Так атрымалася, што мы як гурт «Лідар» вельмі любім выконваць настальгічныя песні. У нас няма такіх моцна падрыўных, але можна было б зрабіць і адну такую.

**— Я вельмі люблю Вашу песню «Каліна красная». Як узнікла гэтая песня?**

— Тэкст напісаў Віктар Швед — пераклаў словы з рускай на беларускую мову. Музыка ўзятая ад песні «Каліна красная» Міхаіла Шуфуцінскага, першага выканаўцы гэтай песні.

**— У 2017 годзе Вы ўпершыню выступілі на Сяброўскай бяседзе. Як Вам падабаецца гэтая імпрэза?**

— Публіка на Сяброўскай бяседзе, можна сказаць, *number one*, публіка — супер, файная атмасфера. Відаць, што людзі прыходзяць сюды не з прымусу, а таму што любяць беларускую музыку. Імпрэза — супер. Думаю, што будзе яна разрастацца, што не знікне і будзе штораз лепшая.

**— Параўноўваючы атмасферу 90-х гадоў і цяперашнюю, якія назіраеце змены?**

— Цяпер інтэрнэт мае ўладу. Моладзь любіць зусім іншую музыку, танцавальную. Думаю, што кожная дэкада мае сваю публіку і яна будзе заўсёды. Калі будзе добрая музыка, спяваная ад сэрца песня, дык і публіка будзе файная.

**— Ці думаеце адкрыць на Facebooku сайт, а мо стварыць канал на YouTube з кліпамі і песнямі гурта «Лідар»? Гэта ж зараз такое моднае.**

— Старонка гурта «Лідар» ужо падрыхтаваная, яе адрас — http://zespol-lider.pl. Мы нават укінулі туды відэа з фэсту ўлетку 2018 года ў Нараўцы. Таксама ёсць здымкі з гэтай імпрэзы.

**— У 1995 годзе Вы напісалі песню «Moja gitara», якая з'явілася на касеце «Suknie kolorowe». Раскажыце гісторыю гэтай песні.**

— Тэкст да песні напісала Мажэна Зрайкоўская, а музыку — Марк Зрайкоўскі. Зараз мы запісалі яе ў новай версіі. У мінулым годзе мы выпусцілі новы кліп разам з групай «Акцэнт». У 2012 годзе гэту песню перарабіла ўкраінская спявачка Ірына Фэдышына і заспявала яе ўкраінскую версію. Зараз ходзяць чуткі, што мы ад яе ўкралі песню, а гэта няпраўда. Мала хто ведае, што яна была даўно напісана, яшчэ ў 1996 годзе, Мажэнай і Маркам Зрайкоўскімі і мы яе першыя запісалі яе на касеце «Suknie kolorowe». Гэта дзеля абвяржэння, бо многія не ведаюць гісторыі гэтай песні.

**— У 2009 годзе Вы выпусцілі беларускі альбом, запісаны на жывых інструментах. Як Вам працавалася над гэтым альбомам?**

— Жывыя інструменты — гітара, гармонік ці бубны — дадаюць музыцы смаку. Думаю, што яны заўсёды будуць заўважнымі. Працаваць над альбомам было файна. Думаю, што заўсёды людзі будуць вяртацца да ігры на жывых інструментах.

**— Калі з'явіцца новы альбом гурта «Лідар» на беларускай мове?**

— Цяжка сказаць. Планы заўсёды бываюць вялікімі, а фінал іншы ад задуманага. Думаю, што такі альбом запішам. Я не кажу, што адразу будзе гэта цэлы дыск, але можа адну ці дзве новыя песні трэба будзе зрабіць. Зараз я дату не назаву, але такія планы ёсць.

**— А маеце новыя песні на беларускай мове?**

— Так, ёсць мае аўтарскія задумкі. Я запісваю свае новыя ідэі на дыктафон і потым гляджу ці гэта файнае, ці гэта трэба развіваць, ці пайсці ў іншы бок. Можна сказаць, што ёсць матэрыял на новыя песні і можа штосьці з гэтага атрымаецца. Трэба пачакаць год, можа больш, або менш і можа атрымацца штосьці файнае. Зараз працуем над новай польскай песняй і пабачым як яна нам удасца. А па-беларуску я заўсёды любіў спяваць і буду спяваць. Мы жывем у такім месцы, якое называецца Падляшша, дзе можна спяваць на любой мове. Думаю, што не павінна нікому перашкаджаць, хто на якой мове спявае. Найважнейшае, каб выкананне добра ўспрымалася публікай.

працяг ☞ 10

*Размова з **Надзеяй СІКОРАЙ**, 1943 года нараджэння.*

# Жылося як прыходзілася, але было весела

**— Ці помніце сваіх дзядоў?**

— Дзеда Мікалая па бацьку і бабцю Параскеву; памятаю бабулю да сямі гадоў. Я з бабцяй была вельмі зжытая; была яна ў бежанстве недзе за Жабінкай, памерла ў 1950 годзе.

Пасля бежанства атрымалі ад бабцінай сям'і пляц на калёніі адзін кіламетр ад Горнага Груда; помню, што жылі мы на калёніі. Мама нарадзіла шасцёра дзяцей, але траіх братоў памерлі малымі. Асталіся мая сястра Еўдакія і брат Пятро, які загінуў у 1979 годзе ў выпадку на матацыкле.

Вёску Горны Груд (раней Кляшчэлеўская гміна, цяпер Дубіцкая) немцы спалілі і сям'я наша жыла ў Вэрстоку, дзе я нарадзілася. Пасля сям'я вярнулася на радзіму, на калёнію Горны Груд.

**— Як адбывалася Ваша адукацыя?**

— Чатыры гады хадзіла ў школу ў Старыну, а пасля ў пяты, шосты і сёмы класы ў Ядлоўку; там раней было войска. Да чацвёртага класа вучыў Барушка, а пасля было больш настаўнікаў. Вучыла, напрыклад, пані Авенка з Міклашоў. У школе вучыліся польскай мове, з чацвёртага класа была беларуская мова, а рускай не было.

З дому да школы было тры кіламетры; пяшком узімку і ўлетку. Веласіпеда не было, бо не было за што купіць. Часам зімою, калі задувала, бацька падвозіў санямі.

Змалку, з пачатку 1950-х гадоў, трэба было ўсё рабіць, працаваць. З васьмі гадоў пасвіла я кароў або абгортвала бульбу. У школе была дзве часткі месяца, а трэцюю — напрыклад пяць дзён у месяц — звальнялі, каб дома ў полі працаваць. Але калі хто дрэнна вучыўся, то таго не звальнялі. У нас быў адзін такі вучань, Пятрусь са Стражы, што сем гадоў хадзіў у першы клас. То смяяліся з яго: „Piotrek, ile masz lat?" А ён адказваў: „Tyle, ile na dachu łat, każda łata po trzy lata". Але мусіў да азначанага ўзросту ў школу хадзіць, іншай магчымасці не было, не было спецыяльных школ.

У школу хадзілі сем гадоў, электратоку, святла на калёніі не было; электрычнасць паявілася недзе каля 1970 года. Помню, прывяду з пашы кароў — кожны пасвіў свае. Бацькі лягуць спаць, а я сяджу пры нафтавай лямпе і ўрокі адрабляю. Мама прабудзіцца і здзіўляецца: «То ты яшчэ не спіш?».

А калі закончыла сёмы клас, то тры разы прыязджалі настаўнікі дадому і прасілі, каб мяне пусцілі вучыцца далей, абяцалі, што аформяць мне інтэрнат. Бо я, слава Богу, вучылася някепска. Але куды ж — не было за што апранууцца. А хто будзе на гаспадарцы працаваць — столькі гектараў! Не пусцілі бацькі. А пасылалі брата, каб ішоў далей вучыцца, а брату вучыцца не хацелася; брату магчымасць была.

**— І калі не навука, то адразу праца?**

— Я пайшла працаваць у лес, палосы дзерці, садзілі лес. У 1959 годзе хадзілі на заробкі ў лес. Выдзіралі дзёран і садзілі саджанцы; рабілі высечку і ўручную. Тады не было арання. У сакавіку ачышчалі высечку, зносілі галлё і палілі.

На працу ў лесе даязджалі да нас дзяўчыны і з Кашалёў, і з Рудут. Трэба было выдзерці паласу паўметровай шырыні, каб можна было там садзіць сасну. Каля дарогі за Вілюкамі я сама выдзерла паласу і сама пасадзіла — такую памятку пакінула. Пазней бачыла, які там лес вырас. Гэта вясною. А зімою шмаравалі маладняк, каб сарны не паелі. Варылі смалу і мазалі вяршкі. Цяпер таксама мажуць, але чымсьці штучным.

Тыя што садзілі, жылі на кватэры ў лясніцоўцы ў Горным Грудзе. У 1950 годзе зараблялі па 50 злотаў за працадзень.



**— Ці заробленыя грошы аставаліся Вам?**

— А дзе! Трэба было на падатак аддаць. Калісь былі тыя кантынгенты, трэба было здаваць мяса, бульбу і жыта дзяржаве.

**— Ці помніце вясковыя абрады, напрыклад абыход поля?**

— Хадзіў бацюшка; зараз таго абраду няма. У нас адбывалася гэта тыдзень пасля Сёмухі. А вазьмі і абыдзі калёніі аддаленыя пяць кіламетраў ад царквы. Кожны гаспадар вёў на свой палетак.

**— Бацюшка хадзіў, але не дармова...**

— А якая ж калісь была заплата! Як ехаў фурай, то кошык бульбы браў, то збожжа, яйкі, то каўбаску перад святам. Бацюшка браў усё тое, што людзі давалі. Ніхто грошай не даваў, бо іх не было.

**— Ці ў хатах у людзей былі палавікі?**

— Не было. Ганчар у Кляшчэлях рабіў гаршкі. А так то вёска была голая і вясёлая. Будынкі былі саломай накрыты.

**— То і басанож хадзілі...**

— О-о-о... Цэлае лета ходзіш басанож. Красоўкі бацькі пад свята купяць, то даглядаеш, каб увесь час новыя былі. А надвор'е было падобнае на цяперашняе. Так прывыклі і так жылося як давялося.

**— Сем'і былі мнагадзетныя. Як адбываліся хрысціны?**

— Таго не помню. Былі, от, кума, кум, брат, сястра, і то ўсё.

**— Свята каляд?**

— Цэлы час у людзей было традыцыйна. Прыносілі ў хату снапок жыта, на стол сена...

**— Вялікдзень?**

— Што ж, як ідзеш, то і камусь нясеш валачобнае. І людзі надаюць як да каляжанак зойдзеш. Так было ўвесь час.

**— Цяжка было жыць на калёніі?**

— Калёнія то забіты кут. Да чыгункі было восем кіламетраў. А трэба было ездзіць часта. Як здарыўся такі год у 1960-х. На полі ўсё вымакла, меліярацыі не было. То я ў Вілюках за адзін метр бульбы два дні капала. І па хлеб трэба было ў Гайнаўку. А заедзеш туды, то дастанеш толькі адну буханку хлеба. Былі чэргі і прадавалі па адной. І зноў трэба ехаць. Нават роварам ездзіла 20 кіламетраў у Гайнаўку па хлеб.

**— Было цяжка. Сумна было таксама?**

— У вёсцы было вельмі многа моладзі. Хаця было толькі 18 хат, то было нас 18 дзяўчат і 22 хлопцы. Сем'і мнагадзетныя былі; нават больш за дзесяць дзяцей. З бацькамі і дзядамі жылі ў адной хатцы, дзе кухня і пакой. Многа дзяцей памірала.

Але было весела, файна. Спявалі, што нядзелю хлопцы ладзілі забаву. Прыязджаў музыкант Толік з Арэшкава.

А зараз нідзе моладзі не відаць. Да 25 гадоў вучыцца а пасля выйдзе замуж і завяжа свет. А я, хаця па сямі класах, то дваццаць вяселляў адгуляла. Бо такая вялікая сям'я была. А дзе я не была: і ў Прыбудках каля Каменя, Новае Беразова, Тафілаўцы. Вяселлі доўжыліся па два дні: нядзеля ў маладой, а ў панядзелак паправіны ў маладога. Цяпер таго няма — вяселле ў рэстаране некалькі гадзін. Але мая ўнучка выходзіла замуж у Памяхоўку каля Варшавы, то вяселле было суботу і нядзелю, у такім файным месцы над ракою — так запланавалі.

**— Ці асталося што ад Вашай калёніі?**

— Мая сястра выйшла замуж у Вулькy-Тэрахоўскую, а я ў 1967 годзе ў Орлю. На калёніі асталіся тады бацькі, я ездзіла дапамагаць ім у полі, а пасля здалі зямлю за рэнту, астаўся толькі ўчастак. Такая была ўмова, а было нямала, бо 19 гектараў зямлі 5-6 класаў, толькі алені і зубры хадзілі. Цяпер нічога там няма, усё зарасло лесам.

**— А як Вам жылося ў Орлі?**

— У Орлі, пакуль не стала на казённую працу, то дома шыла каробкі. Вазілі на скупку ў Рудуты, трэба было наймаць. А пасля скуплялі ў Орлі і было беспраблемна — шэсць каробак на спіну і туды. Сваёй саломы не мелі, то ў суседа Зубрыцкага малаціла за салому, купляла ў Ваські Пятроўскага, Сёмы Здановіча, дзе была нагода. А *хлюбы* дзерлі з вярбы. Выплятаць навучылася хутка. Падмогі ад цесцяў не было, бо мой муж Віця быў пасынкам у айчыма. Як пайшла на казённую працу, то цешча ніводнага дня не занялася дзецьмі; даглядалі Вольга Саевіч і Гайкова.

**— Я, як жыхар Орлі, дадам, што Вы былі неардынарнай гераіняй і многіх задзіўлялі, бо выконвалі цяжкую фізічную работу.**

— Спачатку адзін сезон працавала ў цагельні Антанова. Працавалі там і іншыя арлянскія жанчыны: Вера Назарэвіч, Вольга Галёнка, Вольга Данілюк, Ірэна Ахрыцэвіч, Соня Антанюк. Я працавала на прадукцыі, пераносіла сырыя цэглы з машыны на вазкі — па тры цэглы вагой у тры кілаграмы кожная. У той час у Орлі была ўжо бетанярня, але туды жанчын не прымалі.

А ў 1974 годзе бетанярня стала прымаць, то спачатку прынялі Ірэну Ахрыцэвіч і Вольгу Галёнка, а пасля мяне, Кацярыну Шабан і Надзю Казлоўскую.

Што рабілі? Спачатку камінныя шлакаблокі (пустакі), а пасля і пустакі «пяткі» на вібрацыйным стале. Затым рабілі тратуарныя пліткі. Мужчыны рабілі «дзясяткі», «сямёркі» і «пяткі». Кіраўніком быў Ежы Ёдла, бракаўшчыком Пётр Кудэрскі. Калі Ёдла адышоў на працу ў Бельск, то кіраўніком стаў Люша Мартыновіч, майстрам быў Саша Орда, пазней Саша Шыманскі. Нейкі час я была намесніцай кіраўніка і давозіла дакументы ў Беласток на вуліцу Гетманскую. Там чыноўніца звярнула мне ўвагу, што я не скончыла падстаўовкі, толькі сем класаў. А я адказала, што так — не завяршыла восьмага класа, бо тады ў пачатковай школе яго не было.

І мы, пяць жанчын, працавалі да канца, да пенсіі. Я агулам перапрацавала пры бетоне 21 год, да пенсіі ў лістападзе 1994 года. Пасля пятнаццаці гадоў такой працы мелі мы пяць гадоў дадатку. А потым той дадатак скасавалі.

**— Як жывецца на пенсіі?**

— Цяпер на хлеб хапае.

**— Часта Вас можна сустрэць на могілках, любіце парадак...**

— Выйдзеш з дому, з кімсь паразмаўляеш. [Спадарыня Надзея жыве сама, удава — М. М.] Заняткаў многа няма — летам два загоны агарода.

У маім жыцці не было нічога лёгкага. Змалку да канца. Так мусіць быць.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


## Спектакль пра асла, які размаўляў з зоркамі

Спектакль «Дарога ў Віфлеем» я бачыла ўжо ў выкананні Гродзенскага лялечнага тэатра. Таму, ідучы на падляшскі спектакль Іаанны Троц, я ўяўляла як справіцца яна з многімі персанажамі і ролямі герояў. Аднак з самага пачатку тэатр быў «напоўнены і запоўнены», ды не толькі пашанцавала тут з публікай. Большасць гледачоў складалі мамы з дзеткамі.

Зрок прыкавалі рэквізіты — аб'язны домік, з якога як з чарадзейнага капелюша, з'яўляліся каларытныя і смешныя героі.

Сцэнарый п'есы даволі просты. «Асляня» ўзіраецца ў неба, дзе ззяе Віфлеемская зорка. Яна распавядае яму пра дабрыню і Бога. Усё гэта мёдзікам кладзецца па сэрцы нашаму герою. Ён няшчасны. У яго хітры, злы гаспадар. Асёл сустракае па дарозе свінню, ільва і малпу. У кожнага звяра праблемы з перабольшаным эга. Яны зацікаўлены толькі і выключна сваім лёсам. Таксама гаспадар збіраецца прыслужыцца жаўнерам Ірада, якія вырашылі забіць усіх дзяцей Віфлеема. Тады наш асёл дапамагае ўцячы ад злачынцаў бацькам з Дзіцяткам. Яны абіраюць дарогу ў Егіпет. Усё, што здарыцца далей, мы ведаем ужо з евангелляў...

У пастаноўцы цудоўны настрой. Гэта найперш дзякуючы старым падляшскім калядкам, якія Іаанна Троц спявае разам з Эвай Кот. Захапіла ігра, касцюмы і каларытныя маналогі лялек-герояў. Усё гэта заваражыла беластоцкую публіку. А малечы, якія спачатку не разумелі пра што ідзе гаворка, на канец білі гучныя бравы і збіралі са сцэны «зоркі» на памяць пра беларускую пастаноўку.

Спектакль «Дарога ў Віфлеем» паказаны ўжо 21 раз. У гэты раз ён наведаў Беласток, а больш дакладна — Праваслаўны цэнтр культуры.

(гак)





Рыгор БАРАДУЛІН

### СНЕГАЎ СМЕХ

Снег вясёлы,  
Малады  
Засмяяўся смела,  
Аж прыціхлі  
Халады,  
Неба пацяплела.  
Шчыра так смяяўся  
Снег,  
Што згубіў  
Свой белы смех.  
А, згубіўшы смех свой,  
Снег  
Даганяць яго  
Пабег.  
Даганяць свой смех  
Яму  
Давядзецца ўсю зіму.  
Будзе бегчы,  
Не прыстане,  
Аж пакуль  
Вясной растане.  
І паўторыць  
Для вясны  
Снегаў смех  
Ручай лясны.

## УВАГА КОНКУРС! № 06-19

Носік, ручкі, ножкі мае,  
Хоць яна і не жывая,  
Кожны дзень са мной гуляе.  
Адкажыце, хто такая?  
Л......

Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 24 лютага 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 2: вожык.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі Марыя Красько, Дам'ян Аўярчук з Арэшкава, Дам'ян Карнілюк з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, Павел Пахвіцэвіч, Патрыцыя Нявінская, Вікторыя Залеўская, Дар'я Несцярук з Орлі, Дам'ян Гжэсь, Бартэк Рудзінскі, Пятрук С. з Залук. Віншуем!

# Рэдка такое бывае!



24 студзеня 2019 года ў дзіцячым садку № 3 з інтэграцыйнымі аддзеламі адбыўся экуменічны каляды конкурс пад ганаровым патранатам дырэктар Дароты Дужынскай. На пачатку выступілі госці — калектыў „Званок” пад кіраўніцтвам Святланы Олешаў і гаспадары — група пяцігодкаў „Сарэнкі”.

Пасля мастацкай часткі 10 сем'яў пачалі спяваць і спаборнічаць. Публіка пачула традыцыйныя калядкі. Большасць удзельнікаў падрыхтавала цікавыя рэквізіты. Запанаваў выключны святочны настрой. З вачэй пацяклі слёзы ўзрушанасці.

Пасля доўгіх абмеркаванняў журы прысудзіла месцы:

I месца выспевалі сем'і Монахаў, Сахарчукоў і Леанюкоў.

Спецыяльныя прызы атрымалі сем'і Галавачыкаў-Бураў, Валадкевічаў, Галёнкаў, а вылучэнні — сем'і Дуткоўскіх, Чуракаў, Пісавоцкіх і наша сям'я Раманчукоў.

Дзякуем спонсарам і арганізатарам мерапрыемства: Ганне Альшэўскай, Багусі Валадкевіч, Улі Рачкоўскай-Філіновіч за тое, што маглі мы пры калядцы правесці асаблівыя хвіліны з нашымі дзеткамі. У сённяшні забеганы час рэдка такое бывае.

**Альжбета РАМАНЧУК**

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Рак і яго навукі

Аднойчы маці-рачыха сабрала дзяцей і кажа:

— Паслухайце мілыя! Ад сёння вам трэба хадзіць акуратна, просценька.

Што не рабілі малыя, як не стараліся, усё збіваліся з толку. Спачатку ідуць прама, роўненька, а глянуць на маці і ўсё... ба-ба-бах! Збылталі крок, разлезлася шарэнга, лопнуў парадак. Узбурылася маці ды крычыць на малых:

— Ой, вы, таўкачыкі мае! Ніякія навукі да вас не прыстаюць. Вучы, не вучы — усё дарэмна, рукі ажно вянуць.

А яны схілілі галоўкі і кажуць:

— Мы, мамка, шчыруем, за кожным тваім крокам сочым. І ходзім дакладна так, як ты. Дзе ступіш ты, там лезем мы, твае дзеткі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



Эмілія КАРАНКЕВІЧ (перша злева) і Юлія Грэсь з Залук

**Эмілія КАРАНКЕВІЧ**
Залукі

## Рацушкі

Рацушкі
— гэта смачныя пампушкі.
Мая прабабця іх рабіла
І аб сваёй маладасці гаварыла.
Так было, калі яна 16 гадоў мела,
Тады вайна яе заспела.
У немца бабуля цяжка працавала,
Няраз дахаты ноччу ўцякала,
Баялася, перажывала...
На вайне дзядулю пазнала
І моцна яго пакахала.
Дзядуля ахвотна рацушкі з'ядаў
Бабуліных прысмакаў-блінчыкаў
Есці сабе не шкадаваў.

# Польска-беларуская крыжаванка № 06-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 2-2019:**

Ранак, старт, ар, гусак, бум, парася, павук, парука, тон, рана, матыў, язык. Рэхат, нос, пара, апарат, кавуны, рукаў, сабака, трус, мянтуз, таможнік.

Узнагароды, **аўтаручкі,** выйгралі **Кася Жданук, Кася Радал, Мацей Дзерманоўскі** з Залук, **Ксенія Кучынская, Лукаш Дзюбанос, Раксана Спора** з Орлі, **Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Агата Баравік, Матвей Урыновіч** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Марыся Варанчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Szczęście | | Zamiana | | Małpa | | | | | |
| Członek rodziny | | | | | Grzyb | Lider | | Ar | |
| As | | Okazja | | | | | | | Skrzydła |
| | | | | Nostalgia | | Gawron | | | |
| Czy / Nie | | | Tygrys / Ząb | | | | | Tom | |
| | | Żubr | | | | | | | |
| | Łąka | | | | Orzeł | | | | |
| | Węch | Bank | | | | | My | | |

Сяргей ЧЫГРЫН

# Тры лісты Васіля Петручука



З вялікім сумам даведаўся, што не стала Васіля Петручука. Я часта з ім сустракаўся ў Беластоку ў рэдакцыі „Нівы”. З цікавасцю чытаў яго „Пожню” і іншыя кнігі. „Пожня” захоўваецца ў маёй хатняй бібліятэцы з аўтографам аўтара.

Памятаю ў жніўні 2002 года Васіль даведаўся, што я прыехаў у Беласток і сяджу ў „Ніве”. Ён купіў дзве бутэлькі шампанскага, цукерак і завітаў у рэдакцыю. Мы сядзелі, пілі шампанскае, частавалі ім усіх прысутных і гутарылі пра літаратуру і палітычныя справы. Не памятаю, хто нас падчас гэтай „п’янкі” сфатаграфаваў, а здымак быў надрукаваны ў фотакнізе „Літаратурнае аб’яднанне „Белавежа”. 1958-2003 гг. у фатаграфіях” (Беласток, 2003, с. 138). Яе складальнік — Ян Чыквін.

Васіль Петручук быў чалавекам з гумарам. Гумару ён не баяўся і не крыўдзіўся на жарты. Я перапісваўся з ім. Пісаў ён рэдка. Праўда, у сваім вялікім хатнім архіве адшукаў толькі тры лісты, якія прапаную чытачам „Нівы”. Не памятаю сёння для каго я ў спадара Васіля прасіў запрашэнне. І ён прыслаў, хаця бачна па лістах, што хварэў і некалькі разоў стаяў у чэргах. Але запрашэнне выслаў.

Я рыхтаваў для часопіса „Роднае слова” (апублікаваны ў 1995 годзе, № 2-3) вялікі артыкул пра беларускую літаратурную плынь у Польшчы „Пад дзіўны гоман Белавежскай пушчы”. І пытаў у Васіля Петручука біяграфічныя звесткі і здымак. Ён мне выслаў вось свой здымак, які падпісаў так: „Гэты здымак прыгадзіцца?.. Калі не — вярніце, а я буду старацца пра другі”. Здымак я не вярнуў, ён так і застаўся ў маім архіве, прыгадзіўся толькі сёння.

Лісты Васіля Петручука невялікія. Але яны напісаны не так, як пісалі іншыя літаратары. У гэтых пісьмах адчуваецца сама мова аўтара з рознымі выслоўямі і выразамі: „гэтыя чартоўскія чэргі”, „каго Вы хочаце напалохаць маім здымкам?”, „здароўя ў кожныя суткі на працягу ста гадоў!”, „для мяне час — касмічная хуткасць, для Вас — цягніковая”, „а цяпер — з другой бочкі” і г.д.

Не стала Васіля Петручука — пабяднела і беларуская літаратура ў Польшчы. Таму і сумна ад гэтага, але час, як ён пісаў, сапраўды касмічная хуткасць. Адны нараджаюцца, іншыя адыходзяць у вечнасць. Застаюцца ў нашай памяці і ў гісторыі толькі лепшыя і таленавітыя асобы. Адзін з іх — Васіль Петручук.

## Ліст першы

**Беласток, 3 студзеня 1992 года**

**Спадар Сяргей!**

Вітаю Вас сардэчна, дарагі Прыяцель!

Ваша пісьмо атрымаў 27 снежня 1991 года, якраз тады, калі паліла мяне й ламала найбольшая гарачка — раптоўна злапала мяне запаленне лёгкіх і трымае па сённяшні дзень. Але трэба ж было выканаць Вашу просьбу, бо ніхто акрамя мяне гэтага не зробіць, дык вылазіў з пасцелі аж тры разы і хадзіў у гэтыя чартоўскія чэргі, каб аформіць хлопцу запрашэнне. Прашу аднак не лічыць гэта клопатам, я гэта рабіў для Вас з прыемнасцю, хаця вельмі дрэнна сябе адчуваю.

Дарагі Брацец, я не ведаю як будзе з маёй біяграфіяй, бо пакуль цяжка мне пісаць, а са здымкам дайце спакой. Каго Вы хочаце мной напалохаць? А так наогул, можна ведаць навошта гэта ўсё?

Жадаю Вам добрага здароўя і шчасця ў жыцці, якое мае трываць 100 гадоў.

P.S. Мог бы і сам паслаць Вашаму сябру гэтае запрашэнне, але, як заўсёды, не ведаю што рабіць, дык пасылаю Вам. Перапрашаю, калі што не так. Бывайце здаровы!

*З пашанай — Васіль Петручук.*

## Ліст другі

**Беласток, 7 лютага 1992 года**

**Шаноўны спадар Сяргей, мілы дабрадзей!**

Я крыху неспакойны, што няма ад Вас ніякай вестачкі. А калі так, дык баюся, што Вы не атрымалі майго пісьма, а Ваш сябра — запрашэння. Я адначасова аформіў два запрашэнні, і адначасова, 9 студзеня б.г. абодва адправіў у Беларусь. Няма адказу ад нікога. Я хацеў бы ведаць, як гэта ўсё ёсць на самай справе. Гэтае пісьмо перасылаю праз мяжу прыватнай асобай, можа дойдзе.

Жадаю Вам поспехаў у творчасці, ды шчасця і моцнага здароўя ў кожныя суткі на працягу ста гадоў!

Не звяртайце ўвагі на менскі адрас.

*Ваш Васіль Петручук.*

## Ліст трэці

**Беласток, 2 студзеня 1997 года**

**Паважаны мой прыяцель спадар Сяргей!**

Сёння ўжо 2 студзеня і аж 1997 года! Божа, як гэты час імчыцца. Для мяне гэта ўжо касмічная хуткасць. Вам яшчэ — цягніковая. Але не аб тым будзе мова. Бо ёсць справы іншага тыпу.

Сёння чарговы раз наткнуўся на Ваш ліст да мяне з 1991 года. І яшчэ раз асмеліўся напісаць ну то ж ведаю, што Вы былі маім прыхільнікам і нават у тым пісьме, якое вось перада мною чытаю, што сустрэнемся, а тым часам ані разу не напісалі. Я нават Вас пытаў, ці Ваш калега атрымаў выклік ад мяне і таксама маўчок. Можа што здарылася і я Вас чым пакрыўдзіў, або яшчэ што?

Учора, 1 студзеня, нідзе з хаты не выходзіў, а цэлы дзень (амаль) чытаў. Між іншым, пачытаў месячнік „Роднае слова”, дзе і я знайшоўся сярод іншых. Але там маёй асобнай фоткі няма. Гэта не закід у Ваш адрас. І гэта не бяда. Нічога з-за гэтага не здарылася, а думак розных шмат. Найгорш баюся той, якая стала прычынай Вашага маўчання, бо я вельмі шкадую страчаных сяброў.

Ясна, што Вы мне пра ўсё не скажаце, што і чулі, але прашу Вас, як свядомага, адукаванага і разумнага чалавека, не паддавацца чорным унушэнням і апавесцям. Па мне тут лупяць, як у бубен, а я і бараніцца перастаў, бо гэта паражэнне. А цяпер, як у нас кажуць, з другой бочкі.

Ці Вы ў курсе выдавецкіх спраў? Пытаю таму, бо маю падрыхтаваны матэрыял „З маёй званіцы”. Не пішу ў выдавецтва „Мастацкая літаратура”, дзе была выдадзена мая „Пожня”, бо баюся марочыць ім галавы.

Пры нагодзе хачу пажадаць Вам і Вашай жа поўнай сямейцы ўсяго толькі таго, каб клопаты і рознага тыпу недамаганні ўжо ад гэтай хвіліны адляцелі на сухі лес. Жывіце ў здароўі, шчасці і радасці ў 1997 годзе ды ў сто далейшых!

*З пашанай Васіль Петручук.*

# „Зборніку сцэнічных твораў” — 50 гадоў

Выдавецтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы 50 гадоў назад выпусціла „Зборнік сцэнічных твораў” (1969). Зборнік выйшаў пад рэдакцыяй Яніны Чэрнякевіч. Праект вокладкі ажыццявіў мастак Стэфан Рыбі.

Дарэчы, першы падобны зборнік з’явіўся на свет у 1957 годзе. І ён быў вельмі папулярны і шмат дапамагаў беларусам ажыццяўляць спектаклі ў гуртках мастацкай самадзейнасці. У той зборнік былі ўключаны тры аднаактовыя п’есы і адна двухактовая. Гэта п’есы „Пярэстая красуля” А. Чужыніна, „Боты” М. Крапіўніцкага (пераклад з украінскай мовы), „Міхалка” (з польскай перапрацавана Далецкімі) і п’еса „Мікітаў лапаць” Міхася Чарота. Гэтыя п’есы, якія тады публікаваліся, ставіліся дзясяткі разоў, яны з’яўляліся на ўсіх штогадовых аглядах драматычных гурткоў БГКТ. У асноўным гэта былі камедыі. І іх любілі ставіць на сцэне беларусы Беласточчыны, асабліва моладзь, а гледачы ад пастановак атрымлівалі найвялікшую асалоду і задавальненне.

У прадмове да „Зборніка сцэнічных твораў” (1969) паведамлялася, што „пазней беларускае таварыства, эксперыментуючы, выдавала асобныя п’есы спосабамі ў якасці спецыяльнага дадатку да „Нівы”, асобнымі выданнямі, або друкам на шапірографе. Але ўсяго гэтага было недастаткова, ды і не заўсёды тыя п’есы знаходзілі зразуменне ў нашых гуртко́ўцаў. Выдавецтвамі ж Савецкай Беларусі не было магчымасці забяспечыць усе гурткі”.

Сапраўды, Савецкая Беларусь не паспявала з выданнем драматычных твораў выпускаць не толькі для беларусаў, якія жылі на тэрыторыі БССР, а тым больш для беларусаў Беласточчыны. Таму выпуск падобных выданняў быў дарэчы. І тады, пасля першага выдання зборніка драматычных твораў, БГКТ вырашыла выдаць новы зборнік сцэнічных твораў.

„Зборнік сцэнічных твораў” (1969) адкрываўся вялікай камедыяй Валянціна Зуба „Злавацца не трэба”. Былі змешчаны ў зборніку і п’есы Віталя Вольскага „Цудоўная дудка”, Уладзіміра Адаеўскага „Урок танца”. А таксама дзве п’есы беларускіх аўтараў з Беластока — Юркі Геніюша „Вываражыла” і Сакрата Яновіча „Люцынка — інжынерыха”. Дарэчы, у 1976 годзе БГКТ падрыхтавала і выпусціла асобны зборнік п’ес Юркі Геніюша і Сакрата Яновіча, які так і называўся „Зборнік сцэнічных твораў”. У прадмове да гэтага зборніка аўтары сказалі, што „тэатр — гэта тое, што адбываецца на сцэне, і што дзеецца з гледачамі”. Пяць п’ес склалі гэты зборнік — дзве Юркі Геніюша і тры Сакрата Яновіча. Але вернемся да „Зборніка сцэнічных твораў” 1969 года.




Другі раздзел выдання быў прысвечаны школьнай сцэне. Менавіта на школьнікаў найбольш арыентаваліся выдаўцы беларускіх п’ес. І плён быў. П’есы ставіліся ў школах, дзе вучыліся беларускія дзеткі. Тады ў „Зборнік сцэнічных твораў” (1969) былі апублікаваны дзве п’есы Валянціна Зуба, п’есы Міколы Алтухова, Міхася Скрыпкі і Хаіма Мальцінскага.

Згадаю яшчэ, што ў тыя гады (1950-1970) і тыднёвік „Ніва” выпускаў рэпертуарны дадатак у дапамогу выданням п’ес БГКТ. У дадатку выйшлі асобнымі брашуркамі п’есы „Суседка” Алеся Пальчэўскага, „Мараль Наталлі Зотавай” Іды Эвальд, „Бярозка” Васіля Шчогалева і г.д. БГКТ таксама імкнулася пашыраць выданне беларускіх п’ес, асабліва класіку беларускай драматургіі. Асобнымі кніжачкамі свет пабачылі п’есы Уладзіслава Галубка „Суд”, Янкі Купалы „Паўлінка” і іншыя.

Прайшлі дзесяцігоддзі. Цяпер нават і не магу прыпомніць, калі апошні раз і што з беларускай драматургіі выдавалася на Беласточчыне. І ці пішуць п’есы беларускія літаратары Польшчы наогул?.. Час мяняецца. Але тое, што было зроблена ў ХХ стагоддзі, гэта наша гісторыя — цікавая, вартая даследаванняў і памяці.

Сяргей ЧЫГРЫН

# ПРЫГОЖЫЯ ПАРАСТКІ „БЕЛАВЕЖЫ”

**Жаночая паэзія „Белавежы”, літаратурнага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў Польшчы, якое сёлета адзначыла сваё шасцідзесяцігоддзе, усё ж мала вядомая чытачу. А гэта не адзін дзясятак адметных талентаў. Прапаную чытачам „Нівы” сустрэчу з творамі „белавежанак”, якія сабралі прыгожы букет кветкавых вобразаў.**

Адзін з самых распаўсюджаных у жаночай паэзіі „Белавежы” фларыстычных вобразаў — саду. Акультураная жывая прырода, створаная чалавекам па вобразе і падабенстве да тае, якую падараваў чалавеку Творца, сад становіцца не проста месцам адпачынку, сустрэч, спатканняў, не толькі спажыткам для цела, даруе каштоўную садавіну, але становіцца прытулкам чалавечай душы, уласцівых ёй памкненняў, мараў. Праз фларыстычныя матывы ў паэзіі Марылі Базылюк адлюстраваны матыў маладосці, што прамінула. Вобраз вішнёвага вясновага саду як сімвал хуткаплыннай вясны, якая застаецца ў памяці назаўсёды:

У вертыкалях
маіх зрэнак
сад вішнёвы.

Чыстая белая квецень узносіць увысь, душэўны зрок гераіні ўзняты да нябеснае красы і светласці. Адсутнасць знакаў прыпынку і радковыя пераносы спрыяюць эфекту нечаканасці. Паэтычная фраза, трохрадковік, самадастатковая, шмат гаворыць чытачу, сэнсава завершаная. Але да яе далучаецца наступны радок — „працвіў нябачна” — і сэнс цалкам змяняецца, нечакана, бо гераіню хвалюе згадка пра развітанне-адцвітанне. У вершы, змешчаным поруч, на наступнай старонцы, што ўспрымаецца як працяг тэмы, ідзецца ўжо не пра рамантычнае захапленне вясновым росквітам, а пра магутны подых восені, што фарбуе дрэвы колерамі адцвітання, яшчэ яркімі, агністымі, але ў гэтым полымі наканавана не жыць, а згарэць. Гэта ўжо не проста развітанне, а паміранне. Матыў смутку, бо адыход красы няўхільны, змяняе трагічны — прадчуванне смерці:

пасыпаны
чырвона
барвова
тонкай мглою спавіты дзень
малебен асенні
лістоў пад нагамі
засмучаны сонца прамень
развітанні
памінкі па квецістым траўні.

Кальцавая кампазіцыя верша (у фінале тая ж вясновая квецень) нараджае матыў заўсёднага вяртання ў сваё, прамінулае, даўно адцвілае, бо яно жыве ў памяці чалавека, і шырэй — матыў спрадвечнага адраджэння ў свеце прыроды і ў жыцці наогул.

Марылі Базылюк, далікатнай, незвычайна прыгожай жанчыне, маці чатырох дзетак было толькі трыццаць шэсць, калі яна пакінула гэты свет. Але яе слова не страцілася, яно вярнулася ў літаратурны кантэкст новаю кнігаю з пяшчотнаю назвай „Марылька”, што выйшла дзякуючы тым, хто яе памятае. Вярнулася, як заўсёды, пакуль жыве памяць, будуць вяртацца яе шчымлівыя, прарочыя радкі:

Ізноў вясна кураслепамі
белымі
сардэчна цалуе
маё вяртанне
кветкі альхоўнікаў
у глыбіні сэрца
як слёзы маці
цвітуць
папрокам

У вершы Алены Анішэўскай „Асенні сум” вобраз саду зусім іншы. Бачыць яго восеньскаю парой, калі ўзгадавана чаканая калісь садавіна, нікому зараз не патрэбная. Таму і сумуе сад, сумуе стары, нямоглы гаспадар:

Сумуе асенні садок:
— Так доўга чакаць вясны!
Галлё пад цяжарам пладоў
звісае да самай зямлі.

Жывучы ў гарадскім асяроддзі, Алена Анішэўская ніколі не траціла здольнасці захапляцца прыроднай красой. Асабліва падабалася ёй вясна, час зялёнага росквіту, які ўспрымаецца як прыход святла і любові. Згадаем верш „Пасля дажджу”, дзе выказаны матыў захаплення прыроднаю красою, падараванаю людзям звыш, што выклікае жаданне раздзяліць радасць ад усведамлення далучанасці да гэтага дасканалага свету харастваа з кімсьці блізкім:

Прайшоў вясновы дождж —
зямля сапрэла...
А на галінках бэзу
алмазная раса.
Ліловаю алеяю іду я
і дзякую Творцу:
такая тут краса!

Вобраз саду, дзе кветкі вызначаюць час, бо ягоны рух яскрава відочны праз росквіт і адцвітанне кветак, у вершы Галіны Тварановіч:

Пялёсткавых завей
жаданая нязменнасць —
ахоўніца маіх шляхоў...
Услед духмянае акацыі
адводарыць язмін,
цнатліва дружбай
з шыпшынай колкаю
заўсёдна.

У апошняй страфе паўстае велічны вобраз саду, што сімвалізуе чалавечы, жаночы лёс. Лірычная гераіня разумее, прымае заўсёдны імклівы рух, але не пакідае яе жаданне прыпыніць час, каб і пара пялёсткавых завей і плоднае поўні сталіся нязменнымі. Як заклінанне, гучыць мудрая падказка, у якой умова шчасця, спаўнення запаветных надзей:

Над завяззю пладоў
у чалавечым садзе —
жаданая нязменнасць,
ласкавай будзь — ты
не пярэч сабе самой —
зарука спраўджаных надзей.

Верш „Губляе ў смутку лісце сад” сад выступае не проста дэкарацыяй смутку, што пасяліўся ў душы гераіні. Ён і сам пакутуе. Бо развітваецца з цяплом, бо наперадзе зімовы холад:

Губляе ў смутку лісце сад,
Калыша рэзка вецер голле.
Уростані глухой мая туга
Зрастаецца з тваёй тугою.

Але ўсяму свой час пад гэтым небам. І ўсё ў прыродзе заўсёды вяртаецца, рухаецца па коле. Усё не безнадзейна. У тым калязвароце-паявяртанні гучыць ратавальная нота, надзея на новую сустрэчу:

У час губляе лісце сад.
Рыхтуюцца карэнне і ствалы
Да стрэчы новае пары.

І ўжо ростань не глухая, не пазбаўленая слова і чуцця, а звонкая, бо адчуваецца цяпло роднае душы:

У час губляе лісце сад.
Па звонкай ростані мая душа
З роднаю зрастаецца душою.

Абрамляючы лірычны сюжэт тым жа радком, паэтка змяняе толькі адно слова: *рэзка на ветла*, тым самым цалкам змяняючы настрой, успрыныце твора чытачом. Душа лірычнай гераіні злагоджваецца, напаўняецца пяшчотай і святлом: Калыша ветла вецер голле.

Сад, што паўстае ў вершы Міры Лукшы, створаны праз пакаленне, рукамі дзеда. Цэлая галерэя вобразаў продкаў, што пакідалі на гэтай зямлі свае сляды-пазнакі, праходзіць у памяці гераіні. Усе яны сышлі. А сад застаўся сведкай мінулага, вартаўніком нікому не патрэбных скарбаў. Яшчэ жывы, ды ўжо адчувае непазбежнае, наканаванае:

І блекла кожны год цвітуць нарцыс,
лілея пахкая, цюльпан і ружа.
Старэе сад у одуме ў атачэнні сліў.

Гэты одум-роздум балючы. Адказы на пытанне, чаму набытак працы ранейшых пакаленняў адкінуты, зразумелыя. Найперш гэта зыход з прыроднага асяроддзя ў больш зручнае, камфортнае, урбаністычнае існаванне. Для чалавека гэта набытак, але не толькі: пазбаўленне памяці, адрачэнне ад роднага, што вядзе да непазбежных, балючых страт.

Забуду сад і я,
і сад мяне забудзе.
Пакіну сад і я,
і сум сабе пакіне сад.

У фінале верша паэтка малюе карціну смерці дагледжанае калісь чалавекам сядзібы. Гэтая карціна ўражвае, бо „насельнікі” пакінутай сядзібы ўспрымаюцца як жывыя істоты, што перажываюць вялікі, смяротны боль:

Калі падступіць пушча пад паркан,
груша слязою захлынецца,
антонаўка ўдарыцца ў зямлю,
кроў выступіць, як сок на камені,
і пусціць парасткі парог
дома ў абдымках дрэў.

Сад у вершы Жэні Мартынюк адводзіць у мінулае, ва ўсёабдымны вясновы росквіт. Паэтка спрабуе перадаць нястрымаую маладую прагу жыць і красаваць, радасць светлага пачуцця:

Вясна, вясна... ваколіца пяе!
У белі сад, нібыта маладуха.

Сэрца жанчыны перапоўнена полымем каханнем, што знішчае, спапяляе часавыя межы. Нат і тыя, якія не дадзена чалавеку перакрочыць:

Ап'янелыя ад квецені чаромхі,
Ўсё бяжым, васкрослыя, на нашае
спатканне...

Галоўны фларыстычны вобраз у паэзіі Жэні Мартынюк — белы гарлачык. Верш даў назву кнізе, перанесены ў новую „Ветразь успамінаў”. Лірычная гераіня паўстае рамантычнай мастачкай, што малюе не проста каляровымі фарбамі, але марай, мрояй, летуценнем:

На маім малюнку
нябесны блакіт
і хмары, поўныя мараў.

Белы гарлачык — сімвал чысціні, гармоніі. Час ягоны, як кожнае кветкі, вызначаны, кароткі. Зродненая сэрцам, бы з блізкім сябрам, задумвае з ім, сваім белым гарлачыкам, вандроўку ў будучае, у новы дзень:

Выцвіцеш маем,
мой белы гарлачык,
і разам увойдзем
у новы наш дзень.

Фларыстычны вобраз — бельскія гародчыкі, што стварыла Галіна Тварановіч. Самая яркая, самая вялікая кветка півоня паўстае ў вобразе дзяўчыны ў кульмінацыі свае красы. Нявеста. Кветкавыя колеры зафарбоўваюць не толькі прастору вакол, але і прастору пачуцця:

Ружовыя, белыя хвалі пяшчоты.
У бельскіх гародчыках чэрвень.
Нявесты-півоні — плаўная лінія,
пышная форма барока.

Выказана захапленне, быццам шэдэўрам вялікага мастака. Зрэшты, гэтая краса і ёсць творам найвялікшага Творцы, у палотнах якога ад пачатку пралічаны, наперад падказаны мастакам усе жанры, накірункі жывапісу. Краса прыродная не выпадковасць, усё ў ёй разумна, рацыянальна выштукавана, усё тут да месца, да часу. Як і кожны пялёстак-лёс чалавечы ў суквецці чалавечай гісторыі:

І кожны пялёстак палічаны
з месцам у зграбнай паставе.
Сваім.

Палічаны ізноў жа мудрасцю нябеснай, што вызначае кожнаму сваё месца ў вялікім свеце, даруе чалавеку найвялікшыя пачуцці тут, на зямлі, ды назаўсёды прывязвае зямное да нябеснага, вечнага:

Вось жа задумана колісь дзівосна
І вядзецца нязменна дасюль:
Хвалі пяшчоты, зямля ў нябёсах.

Вітальнае, пераможнае хараство кветак, што не прымаюць развітання назаўжды, што красуюць насуперак смерці, у наступным вершы Галіны Тварановіч:

З жыццём
у змове вечнай
кветкі
услед закрасавалі.
З самотаю халоднай
спрачаліся ўпарта
півоні, ружы,
флёксы і вяргіні.

Адметны кветкавы вобраз стварыла паэтка — сланечнік. Традыцыйная сутнасць яго — сонцавая кветка — не прамінута. Але аўтарка не проста паўтарае агульнавядомае, а стварае цікавы лірычны сюжэт. Ад самага пачатку ўзнікае пачуццё насцярожанасці: прагны пяшчоты, бо, відаць, не мае яе:

гэты сланечнік — прагны ласкавай увагі
найперш усяіснага сонца,
верны свяцілу да скону,
не ўзгадаваны шчаслівa
ля хаты драўлянай
у натоўпе сябрыны
круглатварай.

Урэшце паэтка раскрывае прычыну нешчаслівасці, адзіноты сонцавай кветкі: перанесены на чужую глебу, у сумную мясціну. Не там за зямлю трымаецца, дзе можна квітнець і плысці ўслед за сонцам, а там, дзе заўсёдная сцішанасць і маркота, дзе ён, сонцапаклоннік, недарэчны госць:

гэты сланечнік
карэньчыкам жвавым
на могілках
утрываліўся.

На адметнасць вобраза працуе супярэчнасць: маладая жыццёвая прага („карэньчыкам жвавым”) і могілкі — месца смутку.

Паэтычны абразок, што, відавочна, з'явіўся дзякуючы карціне Галіны Раманавай, якой прысвечаны верш. Паветранасць, няўлоўнасць, лёгкасць:

Дзьмухаўцамі абсаджана лета.
Сярод парашутаў пухнатых —
Крыла страказінага цень.
Трымціць, мігатліва спяшае.

Гэтая замалёўка, навеяная пейзажам, не самамэта. Выводзіць на іншы ўзровень, да разумення імклівасці маладосці, жыцця:

Дзьмухаўцы з ветракамі — паветра.
Як жыццё — страказіне лета.

Самы пазнавальны фларыстычны вобраз Галіны Тварановіч — верасы Дараганава. Спалучэнне гэтых слоў, што сталася назвай кнігі, гучыць надзвычай паэтычна. У ім адлюстраваны гукавы перазоў, суладнасць, прыцягненне. Радзінны знак, звязаны з месцам нараджэння і ўзгадавання. Вобраз стаў скразным, сустракаецца ў многіх творах. Так, у вершы „Сонцу”, у якім створаны лірычны гімн нябеснаму, жыццядайнаму свяцілу. Гераіня паўстае праўдзівай сонцапаклонніцай. У творы ахоплена вялікая прастора, дарагія сэрцу мясціны: менскі Зялёны Луг, Каложа над Нёманам, „у горадзе мары Гародні”, храм Святога Марка ў Бялградзе, „па якім нельга не летуценіць”. Але ўсё гэта, блізкае сэрцу і дарагое, засланяецца найдаражэйшым — ракою Радзімы, бо повязь з мясцінай нараджэння нязменна моцная:

Дакладна ведаю ад нараджэння:
праменьчыкі стому страсаюць
не ў слаўныя Нёман або Дунай —
у Пціч, якая плаўна абмінае
маміны Халкі, Сялец ды Краі...
зрэдку насупленымі
брывамі зялёных берагоў —
ў свеце рака...
Маё сонца бавіць
кароткую летнюю ноч
толькі ў верасах
пад Д а р а г а н а в а м.

Графічнае выдзяленне слова, разрыў літар працуе на ўспрыняцце як найгалоўнага чытачом мо не надта абазнаным, падкажа, як бясконца пераліваецца ў сэрцы мелодыя вялікай любові і натхнення.

Вобраз верасы Дараганава не пакінуты і надалей. У кнізе „Чацвёртая стража” таксама праходзіць скразным матывам. У вершы „Запрошана была за стол...”, дзе адлюстраваны матыў сну, у якім гераіня гасцюе ў блізкай радзіне, што ў вечнасці, між тых, што ведаюць і час і месца. Таму настойліва, строга вяртаюць да галоўнага, таго, што трымае ў зямной жыццёвай радзіне на зямлі. Між самага галоўнага — верасы:

Ідзі, сядай за іншы стол.
Там чаша-чара ўжо твая сумуе
і верасы твае ліловай хваляй...

Галоўны, вяршынны вобраз верасоў Дараганава, як падаецца, створаны ў вершы „Цеханавецкі збанок...”, у якім паяднанне розных, далёкіх у прасторавым вымярэнні, але зродненых любоўю знакаў:

Цеханавецкі збанок,
бельская хата,
а верасы з Дараганава,
што ў Пцічы на плячы
хваёвае прымасцілася.

(працяг будзе)

Альжбета КЕДА

4 ☞ працяг

# А ГУРТ «ЛІДАР» НАДАЛЕЙ ІГРАЕ

**— Адкуль узялася ў Вашым сэрцы музыка? Хто вучыў іграць?**

— Калі мне было дзевяць гадоў, мой старэйшы брат Янка вучыў мяне іграць на гітары, якая стала маім любімым інструментам. Я не вучыўся ў музычнай школе, я — самавучка. Мая першая гітара была балгарскай вытворчасці, такая традыцыйная, простая гітарка. Зараз яна ляжыць на гарышчы ў нашай роднай хаце.

**— Якую музыку Вы прыватна любіце слухаць, на якой мове, якіх жанраў і якіх выканаўцаў?**

— У мяне няма аднаго любімага выканаўцы. Мой густ — разнастайны. Я люблю і сучасную музыку, і класічную. Гэта залежыць ад настрою. Я думаю, што не кожная музыка файная. Напрыклад, я не слухаю рэпу. Найважнейшае — хто выконвае песню.

**— Яшчэ помню Вашу песню «Яблынька». Хто напісаў да яе музыку і словы?**

— Ідэю гэтай песні даў Генадзь Шэмет і гэта ён напісаў тэкст і музыку.

**— Як успамінаеце выступленні на Фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку?**

— Калі мы выступалі, гэта былі файныя часы. Заўсёды там мы хацелі выступаць.

**— У сваім рэпертуары маеце песню «Скажы гітара» ўкраінскага спевака Тараса Курчыка. Хто зрабіў беларускі пераклад песні і як яна трапіла ў рэпертуар гурта «Лідар». Ці Вы сустрэліся з Курчыкам?**

— Не сустрэўся. Аранжыроўку песні рабіў Марк Зрайкоўскі. Беларускія словы напісаў Віктар Швед.

**— Спяваеце таксама песню «Вясна». У арыгінале гэта «Каліна», а спявае ўкраінская спявачка Соф'я Ратару. Хто напісаў беларускі тэкст да гэтай песні?**

— Тэкст напэўна напісаў Віктар Швед. Яму вельмі спадабалася гэтая песня. Таму ён напісаў зусім іншыя словы па так званых нашых «падляшскіх патрабаваннях». Я люблю розных выканаўцаў, таму мне падабаецца і Соф'я Ратару. Мой бацька вельмі любіў слухаць яе песень і пэўна таму так атрымалася. Яна ўжо многа гадоў спявае на сцэне прыгожыя песні.

**— Як Вам складалася супрацоўніцтва з Генадзем Шэметам, які напісаў Вам многа песень і доўгі час быў у Вашым гурце?**

— Я цэлы час гавару пра Генадзя і таму не мушу яго прадстаўляць. Вельмі добра нам працавалася. Гена — вялікі музычны талент. Да таго ў яго вышэйшая музычная адукацыя. Ён — чалавек-аркестр. Многа гадоў мыігралі і спявалі. Ён нарадзіўся ў Мазыры на Беларусі, працаваў у Віцебску, пераехаў у Польшчу. Мы крышку яму дапамаглі, калі прыехаў на Падляшша, і так пачалося супрацоўніцтва. Файна было.

**— Скажыце, што найлепш любіце рабіць у свабодны ад канцэртаў час?**

— Скажу, што можа гэта здавацца дзіўным, але я дамасед. Бывае так, што хочацца пабыць дома з сям'ёй, а тут трэба ехаць далёка на канцэрты. Часам на вёску паеду да мамы.

**— Ці часта наведваеце родную вёску Крывец?**

— Калі дазваляе час дык еду. Вядома, на свята і не толькі.

**— Дзе ў бліжэйшы час можна пабачыць гурт «Лідар»?**

— Бліжэйшыя канцэрты будуць летам. Часам у дуэце з другім гуртом спяваю, каб не згубіць вопыту, таму што любоў да спявання засталася. Як выйдзе наш сайт дык мы будзем паказваць свой канцэртны графік.

**— Большасць беларускіх гуртоў выступае на вяселлях. Ці вы любіце іграць вяселлі?**

— Вяселлі гэта музычны варштат для музыкантаў. На вяселлі трэба патарацца. Зараз публіка больш патрабавальная, чым калісьці, але кожная публіка добрая. Гэта добра, калі людзі многа патрабуюць, тады музыкант мусіць старацца крышку больш. На лаўрах нельга спачыць назаўсёды. Вяселлі файна ўспамінаю. Часам трэба было іграць на вяселлі два дні запар. Зараз не граем на вяселлях. Калісьці на вяселлях ігралі разам з Маркам і Мажэнай Зрайкоўскімі, але Мажэна закончыла сваю кар'еру. Крышку нам рэпертуар разышоўся.

**— Ці прыватна гурт «Лідар» сябруе з другімі беларускімі гуртамі?**

— З канкурэнцыяй? (*смех*) Сябруем. Сустракаемся з калектывамі. Падтрымліваем нармальныя адносіны.

**— Ці сёлета будзе нагода пабачыць «Лідар» на беларускіх запустах?**

— Не ведаю, ці будзем іграць на беларускіх дыскатэках. Калі нас запросяць, дык зайграем, чаму не.

**— А не запрашаюць Вас?**

— Запрашалі, толькі тэрміны не сыходзяцца, таму не выступаем. Рэпертуар можна крышку асвяжыць і можна зайграць. Наша музыка крышку не падыходзіць пад беларускія дыскатэкі.

**— Вы зараз рыхтуеце альбом на польскай ці беларускай мове?**

— Я скажу так, што зараз запісваем новыя песні на польскі рынак. Але як я сказаў, зрабіць альбом на беларускай мове таксама ў нас не закрытая дарога. Нам не перашкаджае ці запісаць новыя песні па-польску ці на беларускай мове.

**— Дзякую за размову. Жадаю Вам поспехаў у музычнай кар'еры.**

— І Вам усяго найлепшага. Прывітанне ўсім фанатам нашага гурта.

Гутарыў
**Юрка БУЙНЮК**

# http://humanlibrary.by

У жыцці кожнага чалавека, пэўна, ёсць нешта, аб чым ён хоча распавесці іншым, нават не родным людзям. У апошнія гады хай сабе пакуль невялікую, але папулярнасць сталі набываць так званыя жывыя бібліятэкі. Сэнс іх у тым, што той, хто мае жаданне, можа распавесці пра сваю працу ці хобі жадаючым яго слухаць. Паколькі з'яўленне жывых бібліятэк прыйшлося на час усё большага пранікнення розных месэнджараў і сацыяльных сетак у наша жыццё, то, здаецца, што гэтая з'ява — вынік несвядомага нежадання пераводзіць усю людскую камунікацыю ў віртуальнасць.

Беларусы лічацца людзьмі, якія не вельмі хочуць упускаць у сваю душу чужых, невядомых асоб. Аднак жывыя бібліятэкі і сярод іх аказаліся папулярнымі. Адным са сведчанняў гэтага з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які так і называецца „Жывая бібліятэка" і месціцца па адрасе **http://humanlibrary.by.**

„„Жывая Бібліятэка" — гэта незвычайная бібліятэка. Тут замест звыклых нам кніг выступаюць жывыя людзі са сваімі гісторыямі, якія гатовы адказваць на любыя пытанні. „Кніга" — гэта жывы чалавек, які мае пэўную ідэнтычнасць, рэдкую прафесію, унікальны досвед, незвыклы для „большасці" лад жыцця альбо светапогляд. Працуе „Жывая Бібліятэка" гэтак жа, як і звычайная: „чытачы" прыходзяць, атрымліваюць „картку чытача", выбіраюць „кнігу", запісваюцца і чытаюць яе на працягу пэўнага часу", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта, які, што прыемна, практычна ўвесь па-беларуску.

Уверсе галоўнай старонкі месціцца выйсці на нешматлікія рубрыкі. Першай ідуць „Навіны". Тут цікаўнага карыстальніка чакае невялікае расчараванне, бо ад чэрвеня мінулага года ніякіх новых паведамленняў там няма, хоць прайшло ўжо паўгода. Па ўсім відаць, у каманды, расповед пра якую знаходзіцца ў суседняй рубрыцы „Пра нас", узніклі нейкія праблемы з публікацыяй актуальнай інфармацыі. Гэта даволі дзіўна, бо над даным праектам працуе не адзін чалавек. „Зараз наша каманда складаецца з 13 арганізатараў і каля 12 валанцёраў, якія дапамагаюць нам рыхтаваць і праводзіць усе мерапрыемствы. У нас вялікая і вельмі дынамічная каманда, якая ўвесь час змяняецца, шукае сябе і імкнецца стаць яшчэ лепш!" — распавядаецца ў рубрыцы „Пра нас". Там жа падаюцца імёны і кароткія расповеды аб актывістах „Жывой бібліятэкі".

У падрубрыцы „Гісторыя" цікаўны карыстальнік можа пазнаёміцца з тым, як узнік сусветны рух жывой бібліятэкі і ўласна беларускі. Паводле тамтэйшага расповеду, жывая бібліятэка ў першы раз прайшла ў Беларусі 11 кастрычніка 2014 года. Насамрэч, гэта не зусім так. Напрыклад, яшчэ ўлетку 2012 годзе ў беларускім Магілёве гарадская бібліятэка, імкнучыся прыцягнуць да сябе новых наведвальнікаў, сарганізавала на адным з мерапрыемстваў жывую бібліятэку. Тады на працягу двух дзён у цэнтральным скверы горада былі ўстаноўлены сталы, за якімі сядзелі людзі-«кнігі», гатовыя адказаць на пытанні чытачоў. Ахвотныя змаглі пагутарыць з дзяржслужачай, маці інваліда, «сеткавіком», праваслаўным святаром, паэткай, байкерам. Згодна з умовамі «прачытання», размова не павінна была перавышаць 30 хвілін, «кніга» магла не адказваць на тыя пытанні, на якія не хацела.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

## 85 гадоў з дня нараджэння

# Арсеня Ліса

Беларускі літаратуразнавец, фалькларыст, культуролаг Арсень Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 г. у вёсцы Вётхава, што паблізу знакамітага Залесся (Смаргонскі раён). Паходзіў з сялянскай сям'і. Яго бацька, Сяргей Пятровіч Ліс, з 1944 года працаваў на чыгунцы. Старэйшыя браты бацькі Іван і Яўген — актыўныя ўдзельнікі заходнебеларускага руху.

Сярэднюю школу Арсень Ліс скончыў у 1951 г. у Смаргоні. У тым жа годзе паступіў вучыцца на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1956 г. Працоўную дзейнасць пачаў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў школе ў Шаркоўшчыне. Адначасна загадваў педагагічным кабінетам раённага аддзела адукацыі. З 1957 г. — рэдактар рэдакцыі мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У 1959 г. паступіў у аспірантуру пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. З 1962 г. — малодшы, а з 1968 г. — старшы навуковы супрацоўнік гэтага інстытута.

Першая публікацыя Арсеня Ліса (артыкул пра мастака Паўла Южыка) з'явілася ў 1955 г. у газеце „Літаратура і мастацтва". Арсень Ліс даследаваў традыцыйную культуру беларусаў, літаратуру, гісторыю і перыядычны друк Заходняй Беларусі, жыццё і дзейнасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, гісторыю культуры.

У 1965 г. па ініцыятыве Арсеня Ліса Алесем Белакозам была арганізавана акцыя накіравання лістоў слухачоў курсаў удасканалення настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры ў Мінску на адрас ЦК КПБ з узняманнем праблем датычна статусу беларускай мовы. Акцыя выклікала незадаволенасць камуністычных улад.

Уражвае аб'ём зробленай працы даследчыкам. Арсень Ліс — адзін з укладальнікаў, аўтараў уступных артыкулаў і каментарыяў шматтомнага акадэмічнага збору „Беларуская народная творчасць". Актыўны аўтар універсальнай і галіновых беларускіх энцыклапедый. Адзін з удзельнікаў шасцітомнай навукова-тэарэтычнай працы „Беларускі фальклор. Жанры, віды, паэтыка" (2001-2007) і чатырохтомніка „Гісторыя беларускай літаратуры XX ст." (вялікі раздзел па літаратуры Заходняй Беларусі аўтарства А. Ліса змешчаны ў 2-м томе). Аўтар аўтабіяграфічнага твора „Ад матчыных песень" (1973), манаграфій „Браніслаў Тарашкевіч" (1966), „М. Шчакаціхін: Харавство непазнанай зямлі" (1968), „Пётра Сергіевіч" (1970), „Купальскія песні" (1974), „Вечны вандроўнік: нарыс пра мастака Язэпа Драздовіча" (1984), „Пякучай маланкі след: Эцюды да партрэта мастака Горыда" (1981), „Валачобныя песні" (1989), „Жніўныя песні" (1991). Аўтар кніг „Gloria victis!" (2010), „Арсень Ліс. Выбранае" (2014) з серыі кніг „Беларускі кнігазбор". Укладальнік шматлікіх іншых зборнікаў народных песень, аўтар падручнікаў для студэнтаў. Аўтар і суаўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў пра беларускіх дзеячаў.

За актыўны ўдзел у нацыянальным Адраджэнні ў 1998 годзе Камітэтам Ушанавання ганараваны медалём Язэпа Драздовіча „За руплівасць на ніве беларускага мастацтва", медалём Анатоля Бярозкі „Цвяток Радзімы" і адпаведнымі дыпломамі. Запісаны ў Кнігу гонару „Руплівцы твае, Беларусь".

Большую частку свайго жыцця Арсень Ліс пражыў у Мінску. Быў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябрам Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" з часу яго заснавання. Памёр 28 траўня 2018 года. Пахаваны на малой радзіме на могілках у Залессі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Каму паскардзішся?

Два гады таму спатрэбіўся мне банкаўскі крэдыт. Паспрабаваў я па інтэрнэце распазнаць аб коштах крэдыту ў паасобных банках, якія прыйшлося б мне заплаціць. Выбар паў на «Альёр-банк». Падаўся я з дачкою ў Беласток на вуліцу Ліпавую. Старшы банкір, пані Кася, аказалася быць гаваркой і ветлівай чыноўніцай. Хуценька запоўніла крэдытную заяву і падала дакументы для падпісання. Я, зразумела, не меў магчымасці пазнаёміцца са зместам запісаных бісерам на дзясятках старонках дамовы, затым намякнуў: «А не будзе тут нейкіх закавык?» — «Усё зразумела запісана», — з усмешкай заявіла працаўніца банка. І я паверыў. Спыніўся адно пры справе страхавання крэдыту. А кошт у маім выпадку заключаўся немалой сумай, больш за дзве тысячы злотых. «Калі крэдыт раней выплаціце, дык за нявыкарыстаны тэрмін можна вярнуць грошы». Некалькі гадзін пазней мы вярталіся дамоў. У хаце я скрупулёзна пазнаёміўся са страховачным полісам. І выявілася тут утоеная закавыка. У 1 і 3 пункце полісу я вымушаны быў падаць заяву аб стане свайго здароўя. Я таго не зрабіў. Несвядома, бо не чытаў дамовы. Пры тым пазнаёміўся з 12 пунктам «Карты прадукту», які дазваляе таму, хто бярэ крэдыт, адказацца ад страховачнай аховы. Такую заяву я паслаў у цэнтральнае кіраўніцтва «Альёр-банка» заказным пісьмом 4 чэрвеня 2016 года. Па сённяшні дзень — без адказу. На адзінаццаць месяцаў раней я выплаціў крэдыт. Падаў заяву ў банк, каб вярнулі грошы за нявыкананую ахову страхавання. Без выніку. Быццам гарохам аб сценку. І каму паскардзішся, чалавеча? «Рыба псуецца ад галавы», — гаворыць у народзе. А гэта праўда. Пасля таго, як вярнуўся я са шпітальнага лячэння, накапілася шмат паталагічных праблем. 12 ліпеня мінулага года паслаў я пісьмо ў Гайнаўскую пракуратуру з просьбай высвеліць справу. Без выніку. Паслаў паўторна просьбу. Гайнаўская пракуратура глуханямой застаецца па сённяшні дзень. А паводле Адміністрацыйнага кодэксу адказ на пісьмо кожная ўстанова абавязана даць у трыццацідзённы тэрмін. І што вы на гэта, даражэнькія?

— Не ўсім усё дазволена.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Канцэрт „Жэмэрвы” ў Старым Ляўкове

25 студзеня гэтага года калектыў песні і танца „Жэмэрва” са Студзіводаў, што ў межах Бельска-Падляшскага наведаў з канцэртам Старое Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Паслухаць яго прыйшлі і прыехалі жыхары Старога і Новага Ляўкова. У святліцы ярка свяціліся ўсе вокны і ажно на вуліцы чуваць было вясёлую музыку і спеў. Вылучаліся мілагучныя дзявочыя галасы і рытмічныя гукі акардэона. Артысты выступілі ў беларускіх народных уборах.

„Жэмэрва” сваім выступам выклікала фурор. Найперш спявала калядкі. Сярод песень былі, між іншым, колішнія лірычныя песні, запісаныя ад старэйшых жыхароў Нараўчанскай і Нарваўскай гмін ды на Палессі (Беларусь). На акардэоне нястомна граў Дарафей Фіёнік. Да пару танцаў былі запрошаныя ляўкоўскія жанчыны ў сярэднім узросце. Усё з мэтай крыху разварушыць публіку, бо яна глядзела выступленне быццам як пашыранае важнае журы. Падчас канцэрта было прыемна і весела.





Прыдалося б больш такіх мерапрыемстваў у святліцах Нараўчанскай гміны. Іх тут шмат і апрача трох-чатырох яны наогул наглуха закрыты.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## „Ніва” і чытачы

Беларускі штотыднёвік „Ніва” меў і мае сваіх пастаянных чытачоў, між іншым, сярод жыхароў Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Там, дзе яе не чытаюць, туды не прывозяць. У Нараўку кожны тыдзень „Ніву” прывозяць на пошту і ў тры крамы. Зацікаўленасць родным часопісам у нас была і ёсць.

„Ніву” № 5 ад 3 лютага гэтага года купілі Марыя і Кастусь Целушэцкія, Вольга і Віталь Скепкі, Галіна і Аляксандр Скепкі, Эва Дзеніс, Марыя Крышань, Валянціна Ігнацюк, Ірэна і Янка Грэсікі, Малгажата і Славамір Смольскія ды Зіна Садоўская з Новага Ляўкова, а таксама Марыя і Янка Янелі, Вера Клімюк і Валянціна Самойлік з Плянты. У гэтым нумары былі тры мае допісы з Нараўчанскай гміны, у тым ліку цікавыя дэмаграфічныя весткі.

2 лютага г.г. патэлефанавала мне Валянціна Ігнацюк з Новага Ляўкова з пытаннем, ці маю „Ніву” з беларускім календаром на 2019 год. Яна хоча купіць. Спадарыня Валянціна сказала мне, што зараз „Нівы” з календаром ужо няма ў продажы ў кіёсках у Гайнаўцы. Там шукала яе ейная дачка Бася і не купіла.

3 лютага г.г. яна папрасіла яшчэ дзве „Нівы” з календаром для Ірэны Харкевіч і Галіны Целушэцкай. Былі гэта — як паінфармаваў мяне лістаноша Юрый Дрозд — апошнія экземпляры газеты ў продажы на пошце ў Нараўцы. Хто яшчэ будзе хацеў купіць, няхай наведае рэдакцыю „Нівы” ў Беластоку. **(яц)**

## Запушчаны роў

Вёска Плянта ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета складаецца з трох частак: дзве з іх раздзяляе чыгунка з Чаромхі ў Цісоўку, трэцяя распаложаная за высокім сасновым лесам і даволі далёка ад чыгункі. Цяпер у сяле пражывае 155 чалавек. Тут актыўныя жанчыны і яны заснавалі Гуртог вясковых гаспадынь. Маюць прыгожую святліцу, у якой часта збіраюцца і ладзяць культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

У сярэдняй частцы вёскі (яна побач чыгункі) цягнецца прызабыты доўгі роў. Ён праз гады зарос кустамі і ў ім поўна апаўшага лісця і сухіх галін. У рове стаіць вада, то і таму зямля размоклая. У каго ёсць склепы з агароднінай, у іх прасочваецца і стаіць вада. Жыхары дамоў, каля якіх бяжыць даволі шырокі і глыбокі роў, патрабуюць, каб яго давялі да парадку. У ім неабходна ссячы кусты і вясной ачысціць ад мулу. Гэтую справу накіроўваем перш-наперш да солтыса, а ён цяпер пасля апошніх выбараў таксама і гмінны радны. **(яц)**

## Адгаданка

1. чараўнік, 2. юрыст, які абараняе на судзе падсуднага, 3. пераможнае завяршэнне шахматнай партыі, 4. горад між Дзятлавам і Ляхавічамі, 5. званне малодшага каманднага саставу ў арміі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 2 нумара**

Локаць, кунтуш, факт, жняя, пяро, каток, Спас, Ява, якутка, яешня, дзік, сцежка, шлюб, марш, Белае.

Рашэнне: **Кожная птушка так спявае, як у яе дзюба расце**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

## 10.02 — 16.02

**(22.03. — 20.04.)** Некалькі мілых неспадзяванак. Да 12.02 агульны балаган і недахоп часу. У пачуццях не пакуй адразу валізак! Першы працягні руку. На працы прыцягваць будзе цябе рызыка, дык ахвотна зайграеш ва-банк, нават пойдзеш «на сваё». Засяродзься на абавязках. Рабі ўсё па парадку. Не адпускай трэніровак, хай гэта будзе раўнд вакол падворка ці хаты. Не еж абы-чаго і абы-як.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш мець падтрымку ва ўсім. 14.02. завітае ў твой знак Марс, несучы здароўе, аптымізм і мноства ажыўляльнай энергіі. Выклічаш сімпатыю і зацікаўленасць іншага полу. З 15.02. гарачыя рандэву. Сувязі наладжаныя з 16.02. (да 20.02.) будуць стабільныя і трывалыя. Увесь месяц добры на далёкія планы і пачынанне новых праектаў. У здароўі адчуеш павеў вясны.

**(22.05. — 22.06.)** Прыйдуць табе ў галаву цудоўныя задумы і будзе няцяжка іх зрэалізаваць. Час вельмі спрыяльны тваёй кар’еры. Вельмі ўдала ў пар, якія працуюць разам. Вельмі шмат будзе дзеяцца ў кампаніі. 9-11.02. многа сустрэч, дыскусій, «бураў мазгоў». У галаве Блізнюка народжанага ў II дэкадзе даспее цікавы праект (будзе патрабаваць аналіз і фінансаў, але мае вялікі шанц на поспех і немалы прыбытак. Не паддавайся вірусам.

**(23.06. — 23.07.)** 10-16.02. будзь вельмі асцярожны, бо можаш апынуцца ў вельмі небяспечнай сітуацыі; асабліва пільнуйся за рулём! З 15.02. можаш адчуць да кагосьці «мяту», з узаемнасцю. Выйдзі да людзей, але далёка трымайся ад падазраваючых усё і ўсіх. Падпісвай дамовы і купляй важнае. Тое, што цяпер зробіш, будзе трывалае і прынясе прыбыткі на доўгі час. Можаш добра пахудзець, а кілаграмы не вернуцца.

**(24.07. — 23.08.)** Рэалізуй свае мары і планы. Энергіі і запалу хопіць. Добрае супрацоўніцтва. Да новых знаёмстваў будзеш падыходзіць як сабака да вожыка, але не рабі нічога сілай. Лепш правесці «валянцінкі» з праверанымі сябрамі. Дома мноства прыемных завіраванняў, можа павялічыцца сям’я. 10-11.02. службовыя выезды або візіты замежнікаў, поспехі ў перамовах. Не дзейнічай на цяп-ляп. Пільнуйся ад кантузій.

**(24.08. — 23.09.)** Знаёмствы з цікавымі людзьмі, шматабяцальныя перспектывы. Прыхільныя людзі, кіраўніцтва. Цудоўна ў пары. Але не будзь лішне сур’ёзным. Праўдзі больш часу дома, са сваякамі, паладзь дома сёе-тое. Калі шукаеш працу, вышлі Сі-Ві ў іншыя месцы чым дагэтуль. Вельмі зважай на тое, што ясі.

**(24.09.—23.10.)** 9-11.02. прыйдзе табе ў галаву задума, як вырашыць праблемы і пераадолець перашкоды. Вялікі прыліў энергіі, зрэалізуеш амбітныя планы. Размах і адвага ў правядзенні змен. Калі нават «валянцінкі» правядзеш з катом, не значыць гэта, што застанешся адзін. Не дай уцягнуць сябе ў інтрыгі і канфлікты. На працы пакажаш, што ўмееш — твае перавагі ў лютым — хуткасць, паспяховыя рашэнні, творчасць. Будзь актыўным і дзейнічай нестандартна.

**(24.10. — 22.11.)** Незабыўны месяц — поўны шалёных прыгод і нечаканых здарэнняў. Шматлікія кантакты і новыя знаёмствы. Адбудуеш сваю пазіцыю. З 15.02. можаш атрымаць пярсцёнак. Абавязкова зайграй у латарэю. Зважай на рукі канкурэнцыі, не спяшайся. Купі штосьці новае з гардэробу. 10-16.02. пільнуйся ад раптоўных і неабдуманых прыёмаў. Лёгка і трывала пахудзееш на здаровай дыеце.

**(23.11. — 22.12.)** Без праблем пераможаш зменлівасць лёсу. Папукацее твой кашалёк. Будзеш аналізаваць, раздумваць, камбінаваць, калькуляваць і не зробіш пару глупстваў. У пачуццях цёпленька і спакойна. Не пераборшч з імпрэзамі. Удачы ў фінансах, асабліва ў Стральцоў з II дэкады, якія не баяцца рызыкі. Будзеш жахам для канкурэнцыі! Удала ў фінансах, зніжкі, удалыя пакупкі, вернуты даўгі, прэмія за эфектыўную працу, выйгрыш у конкурсе ці ў латарэі. Добрая форма.

**(23.12. — 20.01.)** Аптымізм, вера і сіла, энергія для рэалізацыі амбітных планаў. Але і нервовасць. Сувязі наладжаныя ў лютым будуць стабільныя і трывалыя. Прызнацца ў каханні можаш з 15.02. (да 19.02.). Далучыся да вананцёраў. 10.02. можа рушыць уперад твой бізнес, які ледзь дыхае. Але 10-16.02. можа разбурыцца тое, на што доўга і цяжка ты працаваў.

**(21.01. — 19.02.)** 10-16.02. хуткія і рызыкоўныя рашэнні акажуцца вельмі карыснымі і прыбытковымі. 9-11.02. новыя веды, курсы, арыгінальныя задумы, з якіх можна мець грошы; варта заснаваць свой бізнес. Можаш з нічога зрабіць штосьці! Да13.02. наробішся за двух. Але 13-17.02. будзеш прымушаны выбраць «меншае зло».

**(20.02. — 21.03.)** Парадкі ў жыцці, завяршэнне незаконачанага. Выберыся ў рамантычнае падарожжа. Самотная Рыба няхай пераможа сваю нясмеласць. Не хавайся на другім плане! Будзь ініцыятыўны і адважны. Цёплыя адносіны дома. На працы гармонія, у выпадку праблем лёгка знойдзеш саюзнікаў. Вельмі ўражлівыя зубы. Цешся малым, лаві ўлётныя хвіліны.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# Ушанавалі памяць 30 забітых вазакоў

У апошні дзень студзеня ў Пакроўскай царкве і каля помніка на брацкай магіле на вайсковым могільніку ў Бельску-Падляшскім сабраныя маліліся да святых мучанікаў — трыццаці вазакоў, забітых 73 гады таму каля Пухалаў-Старых жаўнерамі атрада польскага антыкамуністычнага падполля капітана Рамуальда Райса, псеўданім «Буры» і ўшанавалі іх памяць. Настаяцель Пакроўскай царквы мітрафорны протаіерэй Ян Шмыдкі, які служыў малебен у гонар святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай удакладніў, што Польская аўтакефальная праваслаўная царква ўключыла 30 вазакоў у лік згаданых мучанікаў і можна маліцца да іх і прасіць у іх хадайніцтва ў Бога ў розных патрэбах. У бары «Анна» адбыўся бельскі вернісаж выставы «Наша памяць», якая ўпершыню была запрэзентавана два дні раней у Залешанах. Бельскія нефармальныя ўрачыстасці закончыліся ў бары спатканнем, між іншым, з сямейнікамі забітых вазакоў і размовамі за гарбатай і кавай.

— Сёння адзначаем дзень памяці вазакоў, якія аддалі жыццё за Хрыста. Мы молімся за іх заступніцтва на Нябёсах, паколькі Праваслаўная царква ў Польшчы ўключыла іх у лік святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай. Цяпер нашы мучанікі ёсць малітвеннікамі за нас у Бога, — гаварыў мітрафорны протаіерэй Ян Шмыдкі пасля малебна ў царкве ў гонар святых мучанікаў.

Семдзесят тры гады таму каля Пухалаў-Старых былі забіты жаўнерамі атрада капітана Рамуальда Райса «Бурага» 30 вазакоў, якія раней былі высланы ў Лозіцы для нарыхтоўкі дроў. Каля пяцідзесяці гадоў сямейнікі не ведалі, дзе знаходзяцца іх астанкі. У дзевяностых гадах мінулага стагоддзя аказалася, што вазакі былі забіты і ў пяцідзясятых гадах перапахаваны з Пухалаў-Старых на могільнік у Кліхах. У 1997 годзе адбылася эксгумацыя астанкаў вазакоў і перапахаванне на вайсковы могільнік у Бельску-Падляшскім. Перад брацкай магілай вазакоў і помнікам у іх гонар на вайсковым могільніку ў Бельску-Падляшскім кожны год у гадавіну забойства сустракаюцца, моляцца і ўшаноўваюць памяць іх сямейнікі. Раніцай 31 студзеня 2019 года памаліцца ў Пакроўскай царкве прыбылі сямейнікі забітых у 1946 годзе вазакоў і іншыя асобы для ўшанавання памяці бязвінных ахвяр.

— Я штогод прыязджаю ў Бельск, каб памаліцца і ўшанаваць памяць вазакоў забітых атрадам «Бурага». Тут, у брацкай магіле пакоіцца мой бацька Фёдар Якімюк з Падрэчан, які быў забіты разам з іншымі вазакамі каля Пухалаў-Старых. Мы доўга не ведалі, што здарылася з бацькам, а маці вельмі моцна сумавала па ім. Калі бацька не вярнуўся з паездкі за дрывамі, нам было вельмі цяжка жыць, паколькі мама сама мусіла выхоўваць нас, чатырох дзетак. Падчас нямецкай акупацыі нас перасялілі на іншае месца і пазней без каня і воза трэба было пачынаць наказваць усё на сваім панадворку. Не далі нам ніякай кампенсацыі пасля страты бацькі, а нават брату пазней не дазволілі гаспадарыць і ўтрымліваць сям'ю. Калі брат падрос, забралі яго ў войска, патлумачыўшы, што шаснаццацігадовая сястра можа заняцца гаспадаркай. Мы доўга гаравалі, а маці чакала вяртання бацькі. Калі даведалася, што ён забіты, вельмі хацела трапіць на яго магілу і прывезці косці бліжэй дому, але не дачакалася такой хвіліны, паколькі памерла ў пачатку сямідзясятых гадоў. Добра, што пазней удалося перавезці астанкі вазакоў у Бельск, пахаваць у брацкай магіле і паставіць помнік у іх гонар. Многа добрых людзей нам дапамагала і дапамагае ў нашай супольнай справе. Журналісты розных масмедыяў таксама зрабілі вялікую работу, падрабязна распавядаючы пра смерць вазакоў, лёс іх астанкаў і асвятляючы цяперашнія ўрачыстасці ў іх гонар. Цяпер я рада, што ахвяры атрада «Бурага», а ў гэтым ліку мой бацька Фёдар, уключаны ў лік святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай. Стралялі ж да іх, невіноўных, за тое, што яны былі праваслаўнымі беларусамі, — распавяла Валянціна Кярсноўская, якая цяпер жыве ў Гайнаўцы і прыбыла на ўрачыстасці разам са сваім мужам Янам і шваграм Васілём Іванюком з Бельска-Падляшскага.



■ У царкве і каля помніка на магіле сабраныя маліліся да святых мучанікаў-вазакоў, забітых 73 гады таму каля Пухалаў-Старых жаўнерамі атрада «Бурага»



Валянціну і Яна Кярсноўскіх спаткаў я год таму перад Маршам у гонар выклятых жаўнераў у Гайнаўцы. Распавядалі яны тады журналістам пра лёс свайго бацькі і цесця Фёдара Якімюка з Падрэчан, забітага атрадам «Бурага».

— У майго цесця быў добры конь і пазычаны воз. Ён хацеў іх вярнуць дамоў. Мужчыну, які рашыўся ўцякаць, мой цесць сказаў, што апасаецца, каб падчас уцёкаў не застрэлілі, паколькі дома чакае жонка і чацвёра дзетак. Гэтаму мужчыну ўдалося ўцячы, а майго цесця Фёдара Якімюка забілі. Тых з атрада «Бурага» зрабілі героямі, а іх сем'ям выплацілі кампенсацыю. Сямейнікам ахвяр атрада «Бурага» не далі ніякай кампенсацыі за смерць блізкіх асоб, — гаварыў Ян Кярсноўскі з Гайнаўкі.

— Мой дзед Міхал Ляшкевіч быў застрэлены каля Пухалаў-Старых разам з іншым праваслаўнымі жыхарамі Краснага Сяла, а ўсе каталікі з гэтай самай вёскі былі адпушчаны дамоў, — сказаў Юры Ляшкевіч.

Пасля малітваў у царкве вянкі і кветкі да помніка на брацкай магіле вазакоў на вайсковым могільніку ўсклалі сямейнікі ахвяр, прадстаўнік пасла Сейма РП Роберта Тышкевіча, ваяводскі радны Славамір Назарук з Беластока, лідары партыі «Разам» з нашага рэгіёна, намеснік старасты Бельскага павета Пётр Божка, бельскі бургамістр Яраслаў Бароўскі, старшыня Рады горада Бельск-Падляшскі Андрэй Рошчанка і яго намеснік Тамаш Суліма, які ад імя сямейнікаў забітых вазакоў і разам з Пакроўскім прыходам у Бельску-Падляшскім суарганізаваў бельскія ўрачыстасці.

* * *

29 студзеня гэтага года каля крыжоў у Залешанах адбыліся афіцыйныя ўрачыстасці з малітвамі ў гадавіну трагічных падзей 1946 года, калі з рук жаўнераў атрада «Бурага» загінулі мірныя жыхары вёскі. Урачыстасці праходзілі з удзелам праваслаўных свяшчэннікаў і шматлікіх асоб. Запрашэнне на ўрачыстасці бургамістр Кляшчэляў Аляксандр Сяліцкі размясціў на сайце горада і гміны Кляшчэлі. У Залешанах адбыўся таксама вернісаж выставы «Наша памяць», якую большчане маглі ўбачыць два дні пазней у бары «Анна». Экспазіцыя з трынаццаці постараў прадстаўляе фатаграфіі і матэрыялы з трох паездак прадстаўнікоў Беларускага гістарычнага таварыства і Фонду Kamunikat.org, якія былі арганізаваны ў рамках праекта "Наша памяць» улетку 2018 года па шляху атрада капітана Рамуальда Райса ў пачатку 1946 года і іхніх беларускіх ахвяр. Падчас паездак былі пачаты інвентарызацыя помнікаў і магіл ахвяр, фатаграфічнае іх дакументаванне і збіранне інфармацыі. Паўстаў таксама план зарэгістраваць помнікі і магілы загінуўшых у 1946 годзе беларусаў і намагацца, каб яны былі ахоўваны на дзяржаўным узроўні. Пра гэта распавялі ў Залешанах прафесар Алег Латышонак — старшыня Беларускага гістарычнага таварыства, а ў Бельску-Падляшскім Яраслаў Іванюк — старшыня Фонду Kamunikat.org, якія стварылі выставу «Наша памяць». Збіраліся там сродкі ў скарбонку на далейшую рэалізацыю праекта «Наша памяць», які прадугледжвае збіранне архіўных дакументаў, аднаўленне помнікаў ахвяр жаўнераў атрада «Бурага» з 1946 года і змяшчэнне на помніках мемарыяльных дошак з надпісамі на беларускай мове.

— Я працую тут, у бары «Анна», распаложаным з другога боку вуліцы ад помніка вазакам і праз акно бачу могільнік. Заўсёды эмацыйна ўспрымаю трагічныя здарэнні 1946 года. Нашы ўрачыстасці — неафіцыйныя і хацелася б, каб праз два гады, на 75 гадавіну ад забойства вазакоў, ушанаваць іх памяць у час урачыстасцей на дзяржаўным узроўні, — заявіў намеснік старшыні Рады горада Бельск-Падляшскі Тамаш Суліма.

Радны Сейміка Падляшскага ваяводства Славамір Назарук заявіў, што ўсклаў вянок да помніка ад сябе і Форуму меншасцей Падляшша. Радны пахваліў ініцыятыву малітоўнага шанавання ў Бельску-Падляшскім памяці вазакоў, якія былі забіты з-за таго, што былі праваслаўнымі беларусамі. Выявіў ён таксама радасць, што ахвяры атраду «Бурага» ўключаны ў лік святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай і можна зараз да іх маліцца і прасіць у іх хадайніцтва ў Бога ў агульнагарамадскіх і індывідуальных патрэбах. Бельскія нефармальныя ўрачыстасці закончыліся спатканнем у бары «Анна», на якім прысутнічалі сямейнікі вазакоў — ахвяр атраду капітана Рамуальда Райса, і размовамі за гарбатай і кавай.

* * *

Настаяцель праваслаўнага прыхода ў Малешах айцец Марк Якімюк 2 лютага адслужыў малебны ў гонар святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай у Занях і Шпаках і разам з сабранымі ўшанавалі памяць ахвяр — жыхароў гэтых вёсак, якія 2 лютага 1946 года былі забіты жаўнерамі атрада «Бурага». Айцец Марк Якімюк паінфармаваў, што Праваслаўная царква ахвяры атрада «Бурага», якія ў пачатку лютага 1946 года загінулі ў Занях і Шпаках, уключыла ў лік святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай.

* * *

Аднак, на жаль, на 23 лютага ізноў запланаваны ў Гайнаўцы IV Марш памяці выклятых жаўнераў, які яго арганізатары плануюць правесці ў гадзінах 13-15 па вуліцах 3 Мая, Баторыя і айца Антонія Дзевятоўскага, побач Свята-Троіцкага сабора і закончыць на стаянцы каля Гайнаўскага дома культуры. У сувязі з чарговым Маршам памяці выклятых жаўнераў у час спаткання ў бары «Анна» паявілася прапанова, каб у гэты час у нядаўна збудаванай царкве ў гонар святых мучанікаў Зямлі Холмскай і Падляшскай у Збучы арганізаваць святкаванні ў гонар ахвяр-мучанікаў. Прыблізна палова вазакоў забітых атрадам «Бурага» паходзіла са Збуча і наваколля.

— Я не супраць выклятых жаўнераў, бо сярод іх пэўна былі асобы, якія, змагаючыся за незалежнасць Польшчы, заслужылі асаблівага шанавання і памяці. Аднак навошта падчас гайнаўскіх маршаў выхваляць «Бурага», адказнага за смерць майго бацькі, астанкі вазакоў і іншых забітых яго атрадам людзей. Таму нам асабліва крыўдна, што марш у Гайнаўцы праводзіцца з усхвальваннем «Бурага» як героя, — заявіла Валянціна Кярсноўская з Гайнаўкі, дачка забітага вазака Фёдара Якімюка.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960 06